№1 (96), студзень-люты 2004 www.navinki.net

# НАВІНКІ Magazine




Надбаўка за самавольны адбор да 50%

Нашы атнашэнія с Расіяй будут долга атраўлены эцім газам!..

# ПАТРАСАЮШЧЭЭ ПАВЫШЭНІЕ ТАРЫФАЎ !!!

## ЗЬМЕСТ



9

## КАМУНАЛ 2015:

**Бесправадная тэлефанія як мадэль для рэформы камунальнай гаспадаркі**

Алгарытм рэформы вынайдзены. Упырсьнем у камуналку эліксіру прыватызацыі ды напоім адварам канкурэнцыі – і казённая карга ЖКГ абярнецца пышнагрудай індустрыяй...







12

## Вуліцы прыватных ліхтароў

Ва ўбойным аддзеле аўтазаводзкага ГАМ царыла звычайная працоўная руціна, калі раптам на парозе храму Фэміды зьявілася офіс-мэнэджэр ЖК СП «Жылком»...

15

## Забіць дэбіла

Пакуль нашы кіношнікі дрочаць на Фасбіндэра і Таркоўскага з фон Трыерам, лепшым прадстаўнікам народнай інтэлігенцыі, кшталту нас з вамі, застаецца толькі марыць. Марыць пра тое, як выглядаў бы фільмец «Забіць Біла», калі б Квэнціну ў 10 гадоў на вочы патрапіўся ня Джон Ву, а сьвежы нумарок *Частного Детектива...*







**Першая старонка:**

Скандал вакол паставак расейскага газу ў Беларусь стаў галоўным галаўным болем для айчынных уладаў. На думку некаторых аналітыкаў трон пад усенароднаабраным захістаўся як лісьце асіны ў восеньскую ноч. Відавочна, для прэзыдэнта насьпела неабходнасьць прыняць ці ня самае важнае рашэньне ў сваім жыцьці – альбо пасласць, альбо пагадзіцца...




**Апошняя старонка:**

Не пасьпела апазыцыйная дэмакратычная кааліцыя «5+» набраць абароты для прапаганды агульначалавечых каштоўнасьцяў, як апанэнты-лукашысты дзьвінулі пад дых. У лепшых традыцыях «чорнага пі-ару» пачалася рэклямная кампанія новых чысьцячых сродкаў для сарціраў пад недвухсэнсоўнай назвай: «Пяцёрка плюс»...

www.navinki.net

# НАВІНКІ magazine

№1 (96), студзень-люты 2004 г.

НЕЗАЛЕЖНАЕ ШТОМЕСЯЧНАЕ
ПАЛІТЫЧНА-ПАРНАГРАФІЧНАЕ ВЫДАНЬНЕ
Выдаецца зь лютага 1998 г.

**Заснавальнік і выдавец:**
Творчае аб'яднаньне «Навінкі»
**Галоўны рэдактар:** Паўлюк Канавальчык
**Тыраж:** 299 экз.
**Адрас для карэспандэнцыі:**
п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ
**E-mail:** navinki@navinki.net



















## ■ ПРЭЗЫДЭНЦКІЯ НАТАТКІ

Прэзыдэнт узімку ня толькі ганяў на лыжах, але й цікавіўся падзеямі, якія здараліся зь ягонымі калегамі па цяжкім кіраўніцкім хлебе. Палазіўшы зь сябрамі ў інтэрнэце і паглядзеўшы EuroNews, наш бацька прааналізаваў ход гэтых падзеяў, зрабіўшы шэраг карысных высноваў, каб не паўтараць чужых памылак, а дзе-нідзе й пераняць перадавы досьвед...

### Ічкерыя–Катар:
## Прэзыдэнт і рэзыдэнты

Напэўна самым значным дыпляматычным і палітычным скандалам стала для нашай усходняй суседкі забойства ў Катары Зэлімхана Яндарбіева. Гэта той самы барадаты дзядзька, які быў прэзыдэнтам Чачні пасьля Дудаева. Бомба, прыстасаваная да днішча, ушчэнт разьнесла джып вядомага сэпаратыста. А празь некалькі дзён па абвінавачаньні ў арганізацыі тэракту ў сталіцы Катару былі затрыманыя тры грамадзяніны Расеі. Прычым у афіцыйных камэнтарах міністар замежных справаў Іваноў нават не адмаўляў іх прыналежнасьць да расейскіх спэцслужбаў. Нібыта яны займаліся там інфармацыйнай разьведкай, зьвязанай з супрацьдзеяньнем міжнароднаму тэрарызму. Так ці інакш, расейскія «антытэрарысты» арганізавалі тэракт, які стаў першым у гісторыі Катара.Такім чынам, ФСБ канчаткова вярнулася да мэтадаў Яжова ды Бэрыі. Варта ўзгадаць таго ж Троцкага, які ў далёкай Мэксыцы загінуў ад рук сталінскага ледаруба. Але за няпоўныя 70 гадоў кваліфікацыя прытупілася: цяпер гэтым гора-Штырліцам сьвеціць пятля.

***Зь дзёньніка А.Р.:***
***«Кстаці, што эта там у Амерыке какая-та Івонка Сурвіла растрындзелась. Нада разабраццa!»***




### Расея:
## Касьянаў дзень

Поўнай нечаканасьцю для ўсіх стаў чарговы перадвыбарчы ход Уладзіміра Пуціна. За тры тыдні да дня галасаваньня ён узяў ды й адправіў у поўным складзе ў адстаўку ўрад, які працаваў больш за чатыры гады, і які незалежнымі аналітыкамі лічыўся лепшым урадам з моманту развалу Савецкага Саюзу. Цяпер экспэрты ламаюць галаву над прычынамі адстаўкі. Першая вэрсія – спроба падняць зацікаўленасьць насельніцтва да выбараў. Другая – Пуцін раскрывае карты ды йдзе на выбары з новай камандай. Важна тое, што зроблена гэта было ў лепшых традыцыях палітбюро, калі народу паказвалі ўжо гатовага бонзу, якога трэба было любіць і паважаць. Нагадаем, што Пуцінаўскі старт таксама пачынаўся з прэм'ерскага стульчаку. Перад ім на гэтым гаршчку пабывала шмат даволі запамінальных кадраў: Гайдар, Чарнамырдзін, Кірыенка, Прымакоў, Сьцяпашын... І толькі на Пуціне Барыс Мікалаевіч спыніў свой выбар. На кім жа спыніць свой выбар сам ВВП? Першым прэзыдэнцкім шарам стаў таўстун і лысун М.Фрадкоў. Ясна, што ён, ды зрэшты й наступны прэм'ер, будзе фігурай часовай. А вось найбольш верагодным пераемнікам Пуціна можа стаць Сяргей Іваноў, цяперашні рыжы міністар абароны, а ў нядаўнім мінулым, між іншым, і дырэктар ФСБ.




***Зь дзёньніка А.Р.:***
***«Маладзец, Вова, харашо усвоіў. Чэм чашчэ правіцельства мяняеш, цем дольшэ у власьці прадзержысься. Кстаці, сколька ўжэ ў нас этат Сідорскі работает? Наверна зараб отаўся...»***

### Македонія:
## «Пешай справай – самалёты...»

Нацыянальнай трагедыяй для жыхароў Македоніі стала нядаўняя авіякатастрофа, у якой загінуў прэзыдэнт краіны Барыс Трайкоўскі. Ён накіроўваўся на канфэрэнцыю краінаў-донараў Босьніі, але сустрэцца з калегамі па агульнай справе яму гэтак і не давялося. Ва ўмовах дрэннай бачнасьці самалёт наляцеў на гару. Па ўсёй Македоніі абвешчаны дзень жалобы. Але што там простыя грамадзяне! Яны на самалётах кожны дзень ня лётаюць.

Гэтая падзея прымусіла ўсур'ёз заняцца праверкай сваёй сыстэмы бясьпекі многіх першых твараў па ўсім сьвеце. Ёкнула ў сэрцы і ў нашага «ойчыма». Але нашмат раней. Яшчэ за два месяцы да балканскай трагедыі ў ЗША для беларускага прэзыдэнта быў набыты троху паюзаны «Боінг», які зараз стаіць на стапелях у Даніі. Там на яго вешаюць усё магчымае абсталяваньне і лепяць разнастайныя навароты (размалёўваюць чырвона-зялёнай фарбай і праводзяць інтэрнэт). Карацей, падганяюць пад прэзыдэнцкі ўзровень. Ня тое, што старэнькі ТУ-154. Так што нашаму народу, у адрозьненьні ад македонцаў, баяцца няма чаго.




***Зь дзёньніка А.Р.:***
***«І чыво он у этат самалёт палез? Хто яво заставіляў? Там жа да этай Босьніі на машыне за полчаса даехаць можна. А на худой конец і пяшком дакавыляць не праблема. І ваабшчэ, лучшэ б у Аўстрыю паехаў, там хоць на лыжах з горкі можна пакатацца.***
***P.S. Кстаці, нада сказаць, што б у новым боінгу калёса падкачалі. На ўсякі случай.»***

### Грузія:
## Хот-дог – гэта вам не хачапуры

Гэтая маленькая каўкаская краіна апошнім часам сямімільнымі крокамі рухаецца ў бок дэмакратыі. Спачатку адстаўка старога аксакала Шэварнадзэ, потым выбары маладога і энэргічнага празаходняга «ружовага рэвалюцыянэра» Міхаіла Саакашвілі. Усё гэта ня можа ня радаваць лупастае вока дзядзькі Сэма. А нядаўні візыт Мішы ў Вашынгтон, дзе ён правёў перамовы з




Бушам і спрабаваў пачаставаць Коліна Паўэла мясцовым хот-догам, ужо зараз прынёс маладой рэспубліцы даволі важныя палітычныя і, галоўнае, эканамічныя дывідэнды. ЗША выдзяляюць крэдыт у 400 мільёнаў грыноў, што па словах самога Саакашвілі ў некалькі разоў больш, чым давалі Шэварнадзэ! Такім чынам, Грузія канчаткова павярнулася да Расеі Панкіскай цясьнінай. А галоўнай унутрыпалітычнай падзеяй стала зьмена былога грузінскага сьцяга на сьцяг перамогі – белае палотнішча з пяцю крыжамі. Пад гэтым сьцягам нібыта яшчэ ў Сярэднявеччы адважныя джыгіты ў крыжовы паход хадзілі. Так што па ўсім відаць, новы прэзыдэнт узяўся за справу ўсур'ёз.

***Зь дзёньніка А.Р.:***
***«Маладзец, Міша, у правільнам напраўленіі двіжгаесься. Ат Расіі паддзержкі ждаць нечыва. Асталась правясьці рэфярэндум аб інтэграцыі с США і а прыданіі амерыканскаму языку раўнава статуса с грузінскім.***
***P.S. Кстаці, што-та даўно у нас рэфярэндумаў не была.»***

## Італія:
# Прэм'ер ці прымадона?




Італьянскі мэдыямагнат, бізнэсмэн і па сумяшчальніцтву прэм'ер-міністар Італіі Сыльвіо Мусаліні, прабачце, Бэрлусконі, даўно вядомы сваімі экстравагантнымі выхадкамі. То сідзюшнік зь песьнямі выпусьціць, то на лаве падсудных апынецца, то фашыстам абзываецца. Але апошняя акцыя шакіравала нават ягоных паплечнікаў. Пасьля адпачынку Сыльвіо вярнуўся вельмі прыгожым і памаладзеўшым. Толькі не ад салярыю з гімнастыкай. Усё значна прасьцей. Вялікі тэнар папросту зрабіў плястычную апэрацыю, г.зв. падцяжку. Праца эскулапаў проста ўражвае. Аднак сам ён адмаўляе факт хірургічнага ўмяшальніцтва і тлумачыць цуд спэцыяльнай макароннай дыетай.

***Зь дзёньніка А.Р.:***
***«Кстаці, нужна і мне на нядзельке зайці зьдзелаць укладку валасоў.»***

## Вялікабрытанія:
# Год сэйв' зэ Блэр!

Прэм'ер-міністар Вялікабрытаніі Тоні Блэр нечакана для ўсіх заявіў аб сваім намеры пайсьці на трэці прэм'ерскі тэрмін. Аб гэтым кіраўнік ураду, а таксама на паўстаўкі лідэр Лэйбарысцкай партыі Аб'яднанага Каралеўства заявіў у інтэрвію газэце *News of the World.*




З Блэравых словаў вынікае цікавая рэч: зараз ён адчувае, што ягоныя пазыцыі ў кіраўніцтве цяпер мацнейшыя, чым былі калісьці. «Якія б ні былі праблемы і ціск, гэта незвычайна прыемная і ўсёпаглынальная праца», – абмовіўся дзядзька Антось, тым самым абвергнуўшы чуткі пра сваю магчымую адстаўку. Аказваецца, і ў чопарнай Англіі ніхто проста так уладу не аддае. Магчыма, у недалёкай будучыні Блэр можа назваць імя свайго пераемніка, працягнуўшы такім чынам ельцынска-пуцінскую традыцыю. Альбо МІ-6 цудоўным чынам знойдзе доказы таго, што Блэр ёсьць унучаты пляменьнік каралевы-маці і мае большае права заняць трон, чым лапавухі пахатлівец Чарлі. Карацей, God save the BLAIR, шаноўныя лэдыз эн' джэнтльмен!

***Зь дзёньніку А.Р.:***
***«Эх, я тожэ хацеў бы стаць аўгусьцейшай асобай... У аўгусьце радзіўся как нікак! Красна-зялёная карона, скіпетар зь сярпом і молатам, дзяржава з "капустай" і ўсё такое... Мы яшчо пасмотрым, каво жызьнь быстрэе у манархі выдвінет, міня ілі брытанскава выскачку Тоню!»***

## Украіна:
# Урокі збройнага бізнэсу

Што толькі ні зрабіў Кучма, каб замяць мінулы скандал з пастаўкамі зэнітных установак «Кальчуга» рэжыму Садама Хусэйна. Нават батальён дэсантуры прыйшлося накіраваць у Ірак на дапамогу міжнароднай кааліцыі. Усе, здаецца ўжо забылі і даравалі гэтую гарэзьлівасьць, як па табе, чарговая інфармацыйная бомба. На гэты раз – ядзерная. Як сьцьвярджае арабская газэта *Аль-Хаят,* вядомая тэрарыстычная сэтка Аль-Каіда мае на ўзбраеньні тактычную ядзерную зброю, якая была набытая ва ўкраінскіх навукоўцаў яшчэ ў 1998 годзе. Афіцыйны Кіеў пасьпяшаўся абвергнуць гэтую інфармацыю. Маўляў, уся ядзерная зброя паводле міжнародных дамоўленасьцяў была выведзеная з тэрыторыі Украіны яшчэ ў 1995 годзе. А гэтая інфармацыя ёсьць чысьцейшай вады правакацыя. Але каму паверыць Вашынгтон, цяпер цяжка сказаць. Вельмі ўжо падмочаная рэпутацыя ў Кучмы. Так што Леаніду Данілавічу цяпер давядзецца папацець, шукаючы месца для пацалунку на целе дзядзькі Сэма, каб замаліць усе свае грахі.




***Зь дзёньніка А.Р.:***
***«Ну нічыму жызьнь Лёньчыка не научыла. Хоць падгатавіцельныя курсы для іво арганізоўвай!..***
***P.S. Кстаці, как там нашчот С-300, дзеньгі ўжэ перачысьлілі?»***

## Гаіці:
# Прэзыдэнт у бягах

Скончылася шматтыднёвае ўзброенае супрацьстаяньне ўладаў Гаіці і атрадаў апазыцыі. І скончылася поўнай перамогай апошняй. Тысячы жыхароў сталіцы сустракалі баевікоў, якія на дзесятку джыпаў амаль бяз бою ўсталявалі кантроль над усімі буйнымі гарадамі і ўвайшлі ў сталіцу краіны Порт-о-Прэнс пасьля таго, як прэзыдэнт Жан-Бэртран Арыстыд быў вымушаны пайсьці ў адстаўку і зваліць з вострава ў Цэнтральна-Афрыканскую Рэспубліку, дзе знаходзіцца на правах «свабоднага чалавека».




Самае цікавае ў гэтай гісторыі – заява самаго Арыстыда, які сьцьвярджае, што быў скрадзены амэрыканцамі ў выніку зрэжысаванага Вашынгтонам дзяржаўнага перавароту. Белы дом безумоўна адмаўляе сваю прыналежнасьць да мінулых падзеяў. Аднак да вострава ўжо накіравалася некалькі амэрыканскіх эсмінцаў з марпехамі на борце. Так што неўзабаве сытуацыя павінная нармалізавацца.

***Зь дзёньніку А.Р.:***
***«От жа балбес! Праваронiў прэзідзенства. Я ўсегда гаварыў, што амерыкосам давяраць нельзя. Сначала Грузія, патом Гаіці, патом глядзі й на нас пазарацца.***
***P.S. Кстаці, нада ў Мар'іну Горку сьезьдзіць, пасматрэць как там сьпяцназ служыт, на ўсякі случай.»***




## Крылы, ногі і хвасты

Глябальная пагроза курынага грыпу і каровінага шаленства не абмінула, здавалася б, спакойную ў гэтым пляне Беларусь. Хоць межы і на замку, але міністэрства сельскай гаспадаркі і харчаваньня ня сыпіць у шапку-вушанку, а прымае экстраныя меры харчовай бясьпекі. Уступіў у дзеяньне плян па паступоваму пераводу жывёлагадоўчага комплексу на выпуск страўсінага мяса. Экспэрымэнт вырашана пачаць з маладэчанскай птушкафабрыкі. Зараз там ужо вырашчана 8 дарослых асобінаў, а ў інкубатары чакаюць нараджэньня на сьвет яшчэ 7 яек, завезеных з Ізраілю і Польшчы. Улічваючы страўсіную пладавітасьць, у наступным годзе іх лік пойдзе на сотні, а магчыма і на тысячы. Варта адзначыць, што дарослага страўса па вазе можна параўнаць з ладным падсьвінакам. Як ніяк 150 кіляў. Акрамя таго, страўсяціна адрозьніваецца тонкім смакам і нізкім утрыманьнем тлушчу і халестэрыну, што робіць яго дыетычным прадуктам. А скура і пер'е гэтай экзатычнай птушкі выкарыстоўваецца ў лёгкай прамысловасьці. Атрымоўваецца, з усіх бакоў добрая жывёліна. Так што праз пару гадоў на вёсцы можна будзе ўбачыць, як мужыкі смаляць заколатага страўса, а жаночыны пякуць кравянку і напіхваюць у кішкі вантробы ●

## Тралейбус выклікалі?

**Новы від паслуг прапануе жыхарам Гомелю дзяржаўнае прадпрыемства «Гарэлектратранспарт». Цяпер усе, хто жадае, змогуць узяць на пракат... тралейбус. Адна гадзіна арэнды рагатага транспарту абыйдзецца ўсяго ў 32 тысячы рублёў. Штодзень гатовымі да выезду стаяць 10 адзінак тэхнікі. Хтосьці зьдзівіцца, каму можа спатрэбіцца такі марудны і дарагі сродак перасоўваньня. Але недахопу ў кліентах не адчуваецца. Ужо выканана некалькі заказаў на дастаўку шлюбных параў у ЗАГС. А напрыклад адзін барыга павёз пакатацца па горадзе сваю Малую. Аднойчы кодла бухіх студэнтаў захацела ў тралейбусе сустрэць сьвітанак, і ім гэта ўдалося, бо вадзілы падпрацоўваюць і ўначы. І гэта толькі першы крок на шляху самаакупальнасьці грамадзкага транспарту. Да нас дайшлі чуткі, што неўзабаве менскі мэтрапалітэн пляну скарыстацца перадавым гомельскім досьведам і здаваць у арэнду цягнікі. Так што калі ў падземцы міма вас пралятае пусты цягнік і не спыняецца, прыгледзьцеся, ці няма на ім «шашачак»** ●




## Пікет па... блату




Газавы скандал не абмінуў, здаецца, ніводнага жыхара Беларусі. На кожным вуглу спрачаліся людзі. Справа ледзь не дайшла да разрыву дыпляматычных зносінаў паміж двума брацкімі дзяржавамі. Асабліва ў гэтым пастараўся авангард бацькавай моладзі – БРСМ. За лічаныя гадзіны быў зарганізаваны пікет насупраць расейскай амбасады, на які былі сьцягнутыя пікетныя заўсёднікі: актывісты, пэнсіянэры, працоўныя і студэнты вайсковых катэдраў. Асабліва зьдзівілялі сваім радыкалізмам лёзунгі маладых патрыётаў. Здавалася, яшчэ крыху і прагучыць заклік ісьці вайной на Масковію. Але жарсьці ўлегліся, а пытаньні засталіся. Якім чынам Менгарвыканкам даў дазвол на правядзеньне пікетаваньня, калі згодна заканадаўству заяўка павінна падавацца за два тыдні да падзеі? А калі сходка была не санкцыянаванай, то чаму тады АМАП ня зладзіў звычайны для такіх мерапрыемстваў хапун? Дзіўна, ня можа ж перадавая грамадзкая арганізацыя дзейнічаць па-за законам. Адказ на гэтае пытаньне можа быць толькі адзіным. Атрымліваецца, што вярхушка БРСМу яшчэ за два тыдні была ў курсе будучага адключэньня газу і не паведаміла пра гэта прэзыдэнту. Дык хто ж тады зьлівае інфармацыю бээрэсэмшчыкам? Ці ня той самы Газпром або адстаўны Касьянаў? Са свайго боку мы раім генэральнай пракуратуры правесьці расьследаваньне і выявіць сапраўдныя крыніцы фінансаваньня гэтай радыкальнай групіроўкі ●

## ■ WWW.PAEDOPHILIA.

# Оф-шор

Сівая легенда кажа, што калі Бог дзяліў паміж народамі рынак працы, беларусы сачкавалі. Потым у якасьці адмазкі партызанскія байструкі казалі, што нібыта «жопа»: не маглі прыйсьці, бо капалі бульбу. Як бы там ні было, кожная нацыя нешта атрымала, і толькі мы засталіся з фігай у кішэні і бульбай у буртах. Кітайцаў Ойча навучыў рабіць шырпатрэб, тайцаў арганізоўваць для інтурыстаў сэкс-індустрыю, малдаванаў працаваць на будоўлях па-чорнаму, афганцаў скрыжоўваць опійны мак з тапалямі... Усе весела растусаваліся па хатах зь нейкімі proffesion de foie. Калі на парозе раю зьявіліся запыханыя бульбашы і нагадалі пра сябе, Божанька раптам зразумеў, што для іх у яго нічога не засталося. Таму дасюль Яхвэ думае, якую спэцыялізацыю даць беларусам на сусьветным рынку, а




## Шкварка – антытэрор

Не сакрэт, што галоўнай праблемай для большасьці заходніх краінаў зьяўляецца г.зв. міжнародны тэрарызм. Амэрыканцы патрацілі ўжо не адзін мільярд даляраў у пагоні за няўлоўным бэн Ладэнам і на апэрацыю ў Іраку. Але пакуль што безвынікова. У Багдадзе выбухі грымяць па некалькі разоў на дзень. А ў саміх ЗША людзі па-ранейшаму баяцца лётаць самалётамі амэрыканскага аэрафлоту. А вось у Ізраілі, які з тэрарызмам сутыкнуўся значна раней, здаецца знайшлі выйсьце з тупіковай сытуацыі. Там, як вядома, галоўную небясьпеку прадстаўляюць шахіды з паясамі сьмерці на пузе, якія час ад часу ўзрываюць аўтобусы. Каб не дапусьціць уваходу сьмяротніка ў аўтобус, улады вырашылі на ўсіх маршрутах павывешваць у салёнах кускі сала. А сьвініна для сапраўднага мусульманіна любы кантакт са сьвіньнёй не дапусьцімы, так жа як і для іўдзея. Але вярхоўны равінат ужо даў сваю згоду на такія надзвычайныя меры. Так што цяпер ніводны тэрарыст ня зможа трапіць у рай, дзе яго па задумцы будуць чакаць 70 дзеўственьніц. Але ня трэба спыняцца на дасягнутым. Напрыклад, для разгону дэманстрантаў на заходнім беразе Ярдану і ў сэктары Газа можна выкарыстоўваць вадзяныя пушкі, запраўленыя сьвіным тлушчам. А ўявіце, што будзе, калі артадаксальны габрэй, абвязаны банкамі з пратухлай тушонкай, узарве сябе ў арабскім квартале ●

## Я хачу, шафёр, каб табе павязло

Новая ініцыятыва дзяржаўнай аўтаінспэкцыі можа вылезьці бокам беларускім ліхачам. З пачатку сакавіка ДАІ распачало выдачу новых рэгістрацыйных нумароў для аўтамабіляў. Чырвоныя лічбы на белым фоне саступяць свае месца новым нумарам з чорнымі лічбамі на белым фоне. Па словах міністра унутраных справаў Уладзіміра Навумава яны будуць мець значна лепшыя ступені абароны, а калі на іх паглядзець пад вуглом, то на прасьвет выступаюць літары BY. Але самае галоўнае, на іх будзе пазначаны рэгіён, у якім зарэгістраваны аўтамабіль. Так, напрыклад, Берасьцейская вобласьць атрымала нумар 1, Віцебская – 2, і г.д. горад Менск будзе пазначаны нумарам 7. Але гора-чыноўнікі яўна пралічыліся, ня ўзяўшы пад увагу сусьветны досьвед. Гішпанія ўжо даўно адмовілася ад такой сыстэмы рэгістрацыі з-за нападаў сэпаратысцку настроеных элемэнтаў. Калі, напрыклад, які-небудзь зажраты хрыч з мадрыдзкімі нумарамі заяжджаў на сваім навамодным Сэаце-Ібіца ў Каталонію, альбо, ня дай бог, у Краіну Баскаў, то ад яго тачкі заставаліся толькі колы ды дворнікі. Ня кажучы ўжо пра выезды яўрэяў на Заходні бераг Ярдану. Не адна сотня машынаў стала ахвярай векавой нянавісьці прыгнечаных народаў. Уявіце, што будзе, калі які-небудзь круты сталічны мянчук заедзе на сваёй Аўдзі-бочцы ў глухую палескую вёску ды пачне на «дзыскацэке» цёлак здымаць?! Дык ня тое што тачку, ногі б адтуль зьнесьці. Так што, зь якога раёну, пацаны-аўтамабілісты? ●




**BY**

# для вычварэнцаў




апошнія гадаюць, што ім перападзе. Гэтак, напрыклад, сп. Раманчук лічыць, што нам наканавана стаць краінай кладаўшчыкоў і заўхозаў. Набыўшы *Белорусскую Газету* ад 26 студзеня Вы можаце зацаніць яго science-fiction:

***«Даже если не развивать высокотехнологичные производства, мы можем спокойно продавать услуги по складированию, хранению и дистрибьюции товаров. Несколько десятков оптовых баз могли бы сосредоточиться на границе с Россией и служить базой для импорта (с нашей точки зрения реэкспорта) товаров в Россию. Чтоб такие услуги развивались и оптовая торговля развивалась, надо разрешить продавать землю иностранцам и создать условия для инвестирования частных денег в транспортную инфраструктуру и недвижимость».***

Пакуль Раманчук трызьніў пра краіну-камэру захоўваньня багажу, контуры будучай спэцыялізацыі радзімы у сусьветным рынку працы пачалі памалу прарысоўвацца. У сярэдзіне студзеня ў краіне разразіўся гучны скандал. Айчынныя Ніро Вульфы і Арчы Гудвіны выйшлі на сьлед інтэрнэтаўскай канторы, якая закалочвала шалёныя бабкі на тым, што падгружала сайты для амэрыканскіх пэдафілаў. Відавочна, заакіянскія Гумбэрты-Гумбэрты абралі беларускіх вэб-майстроў у якасьці падрадчыкаў далёка ня мэтадам тыку. На бераг Сьвіслачы іх прывяла інвэстыцыйная прыцягальнасьць Беларусі: танная, але прафэсійная працоўная сіла, якая да таго ж абсалютна індыфэрэнтная ў пытаньнях маралі. Адным словам, ня выключана, што нашай нішай на сусьветным рынку працы стане вытворчасьць сайтаў аб тым, як брат мае сястру, якая бярэ ў бацькі, які робіць кунілінгус маці, якая б'е кнутом хатняга хамячка – аматара сада-маза. Нічога ў гэтым дурнога няма. Ніхто не прымушае рабіць нас на хаце Садом і Гамору. Ад нас патрабуецца толькі распрануцца, прыняць позу, зрабіць міну афігеннага экстазу,

**Беларуская апазыцыя пазбавілася аднаго са сваіх найбольш скандальных пэрсанажаў. Бязьзьменны лідэр «Маладога Фронту» Павел Севярынец абвесьціў пра сваю астаўку з пасады старшыні гэтай арганізацыі. Як тлумачыць сам «пэнсіянэр», ён занадта ўжо стары для таго, каб працягваць кіраваць школьнікамі. Цяпер для Пашы рубам стаіць пытаньне пра сваё далейшае працаўладкаваньне. Чым жа зоймецца былы вулічны фулюган, які напрацягу апошніх 7 гадоў псаваў кроў сталічнай міліцыі?**

# Севярынец выйшаў на пэнсію. Што далей?..

*(Вынікі інтэрнэт-галасаваньня, праведзенага на сайце www.navinki.net)*

## 1. Прэпадобны айцец Павел (35%)



Вядомая Пашава гарачая любоў да Ісуса можа раз і назаўсёды вызначыць ягоны лёс. Севярынец паступіць у сэмінарыю якіх-небудзь Сьведкаў Яговы або Саентолягаў і будзе несьці сьвятло Слова Божага ў самыя глухія закуткі Палесься. Аднойчы ён праслявіцца сваімі цудаміператварэньня водкі ў гарэлку і гаварэньня на розных беларускіх мовах, і будзе прызнаны адным з уцелаўленьняў Крышны.

## 2. Геолаг Севярыныч (2%)



Нагадаем, што Севярынец з горам напалам скончыў у свой час геафак БДУ па спэцыяльнасьці геоляга. Аднак закасіў ад разьмеркаваньня й ні дня не адрабіў на карысьць Айчыне. Цікава таксама, што дыплёмная праца Севярынца называлася «Бурштын Беларусі». Таму хутчэй за ўсё, Паша кінецца шукаць тыя бурштыны дзе-небудзь на Нёмане.

## 3. Ды-джэй Паўлін (3%)



Не прападзе дарма Севярынцава навука пра тое, як трэба арганізоўваць беларускамоўныя віктарыны для маладзёнаў, выкладзеныя ў вядомым трактаце «Ды-джэй «Адраджэньня». Канешне ж, на такім шыле ў маднявых начных клюбах не пратрымаесься. Аднак можна няблага калыміць тамадой на маладафронтаўскіх вясельлях.

## 4. Беларускі пясьняр Паўка Купала (12%)



Сам Севярынец прызнаўся, што хоча сур'ёзна заняцца эпісталярным жанрам паэзіі. Ён ужо шырока вядомы ў вузкіх колах сваёй трылёгіяй «Маладая Беларусь» і «Валадарскай Баладай». Хутка выйдзе з друку чарговая Пашава эпапэя «Нацыянальная ідэя». Вядома, Севярынцу з Адамам Глёбусам па колькасьці эротыкі не цягацца. Але калі справы ў гэтай галіне пойдуць пасьпяхова, то зь Севярынца атрымаецца неблагі пісьменьнік-фантаст.

## 5. Пахан Віцебскі, паганяла «Северны» (9%)



Хто ведае, можа, дзянькі, праведзеныя на Валадарскіх нарах таксама не прайшлі для Пашы бясьсьледна. Там, у затхлых лукашысцкіх казэматах, у Севярынца зьявілася шмат карысных блатных падвязак. Цяпер, калі Павел канчаткова вырашыў паставіць крыж на былой фраерскай жытусе, ён зоймецца рэальным дзэлам: спачатку возьме пад сваю «крышу» пару кіёскаў у Лошыцы, потым паставіць пад кантроль Жданы, а там, глядзіш, каранууецца ў аўтарытэтнага «вора ў законе».

## 6. Прэзыдэнт Павел Рыгоравіч (26%)



Як заяўляе сам Севярынец, ён не зьбіраецца пакідаць «вялікую палітыку». У бліжэйшых плянах – «навядзеньне парадку ў старой апазыцыі» й арганізацыя новага нацыянал-хрысьціян-дэмакратычнага руху, які нарэшце кансалідуе кволую беларускую апазыцыю й прапіша канкрэтнага пендаля апшняму дыктатару Эўропы. Сам жа яснагаловы кансалідатар зойме німнога-німала пасаду Самаго.

## 7. Пашка-шклатаршчык з Карлачкі (13%)



Калі ж справы будуць увогуле дрэнь або канчаткова дастане КДБ, Севярынцу прыйдзецца драць когці на эміграцыю. Халява, па якой былы Пашаў бос Зянон Пазьняк адхапіў амэрыканскую «грын-карту», ужо не праканае. Адзіная дарога для былога югэнд-боса ляжыць у Мэкку беларускіх палітуцекачоў – Чэхію. У такім разе, Пашу лёгка можна будзе сустрэць дзе-небудзь на Праскім віетнамскім рынку ў якасьці грузчыка, або застаць за мірным зьбіраньнем бутэлек пад Карлавым мастом.

**НАВІНКІ** *magazine*




сфоткацца, перавесьці фотку ў фармат HTML і памясьціць на сайт. І ўсё! Куды больш гемарою будзе нашаму ўраду. Незвычайная спэцыялізацыя краіны ставіць яго ў даволі далікатнае становішча. З аднаго боку міжнародныя канвэнцыі прымушаюць яго жалезнай рукой выкарчоўваць сындыкаты бойлавераў, зь іншай даць пэдабізнэсу загнуцца – значыць прыпыніць прыток у краіну валюты, павесіць на сябе праблему працаўладкаваньня і падзеньня спажывецкага попыту. Відавочна, дзяржаўным мужам прыйдзецца дзейнічаць як ураду Калумбіі, галоўнай крыніцай прыбытку якой зьяўляецца какаін. Лічыцца, што вядучым вытворцам «Канстанцін Канстанцінача» зьяўляюца калумбійскія партызаны з руху «Рэвалюцыйная Уброеныя Сілы Калумбіі – Народнае Войска» (FARC–EP) на барацьбу зь якім Багата атрымлівае гранты з Вашынгтону. Змагаючыся з арміяй Фаркленэіі, калумбійскія чыноўнікі пры гэтым зачыняюць вочы на дзейнасьць наркамафіі. Як вядома, цяперашняга кіраўніка Калумбіі Альвара Урыбе лепшыя корышы – сям'я Очора – адні з бугроў «Мэдэльінскага картэлю». У 1998 г. высьветлілася, што наркабароны фінансавалі перадвыбарчаю кампанію прэзыдэнта Эрнэста Сампэра. Але гэта яшчэ кветачкі ў параўнаньні з будучымі буднямі Беларусі.

**Якуб Чыкаціла,**
пэдагог

# Бесправадная тэлефанія як мадэль для рэформы камунальнай гаспадаркі

**ШЧЫРА КАЖУЧЫ**, ані вайна ў Іраку, ані супэр-кампутар «Скіф» з газіфікацыяй Палесься, пра якія нагадаў у навагодняй прамове Прэзыдэнт, і блізка ня выклікалі столькі сацыяльных і культурных мутацыяў, фрустрацыяў і палюцыяў у мінулым годзе, як **халодны душ ад ПАВЫШЭНЬНЯ КАМУНАЛЬНЫХ ТАРЫФАЎ** і **аксамітавая рэвалюцыя МАБІЛЬНАЙ СУВЯЗІ**. Першы пратараніў жалезабятонную дзявочую пляву народнага іміджу Лукашэнкі. Другая – за лічаныя месяцы завэрбавала сотні тысяч беларусаў у адэпты фэтышысцкага культу бесправадной перагаворнай трубкі,ператварыла некалі непад'ёмны элітарны «сотавік» у аб'ект масавага спажываньня, а ягоную форму зрабіла галоўным сродкам сацыяльнай, культурнай, полавай і палітычнай самаідэнтыфікацыі грамадзянаў. Жыльлёва-Камунальная Гаспадарка (ЖКГ) і рынак мабільнай сувязі выглядаюць прататыпамі дзьвюх проста супрацьлеглых мадэляў эканамічнай палітыкі, якія як шызафрэнія разьдзіраюць беларускі рэжым: **НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ** і **ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ**.

**стань мабільным**



## Жыльлёва-Камунальнае Пекла

Кашмары камунальнага шоку – дэманстрацыя неэфэктыўнасьці дзяржаўнага мэнэджмэнту, адзінагалосна лічаць аўтарытэты. Толькі ўявіце: увесь 2003 год тарыфы на паслугі ЖКГ толькі й рабілі што пухлі амаль у геамэтрычнай прагрэсіі, стаўшы галоўным аб'ектам спэкуляцыяў апазыцыі і скаргаў насельніцтва.

Намесьнік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі, ён жа «незалежны эканаміст», ён жа «эксперт», ён жа шматаімённы «журналіст» *Белорусской газеты*, ён жа «прэзыдэнт навукова-дасьледчага цэнтру Мізэса», прарок, маг і чарадзей беларускага нэалібэралізму Яраслаў Раманчук: «*ЖКГ — цудоўная ілюстрацыя таго, як дзяржава можа кіраваць асобна ўзятым сэктарам эканомікі*»; «*Калі пачнуць развальвацца дамы, лопацца трубы, пачнецца веерное адключэньне вады і сьвятла, а людзі будуць плаціць за кватэру на 50% болей, чым сёньня, то для навядзеньня парадку ў гэтым сэктары спатрэбяцца не сантэхнікі і электрыкі, а аматаўцы і спэцназаўцы*»; «*Адзіным выйсцем у гэтай сытуацыі было б правядзеньне глыбокай рэформы з разьвіцьцём канкурэнцыі сярод кампаніяў па аказаньні жыльлёва-камунальных паслугаў*» (у розных артыкулах *Белорусской газеты*).

Міністэрства жыльлёва-камунальнай гаспадаркі гэтак спужалася пэрспэктывы даверыць Наумаву і «крапавым бэрэтам» прачыстку ўнітазаў і вываз бытавога сьмецьця, што аж да 2015 году прапісала меры па выратаваньні галіны. У маі мінулага году была прынятая «Канцэпцыя разьвіцьця ЖКГ РБ», што прадугледжвае глыбокія, шырокія і высокія рынкавыя рэформы.

Алгарытм рэформы вынайдзены. Упырсьнем у камуналку эліксіру прыватызацыі ды напоім адварам канкурэнцыі – і казённая карга ЖКГ абярнецца пышнагрудай індустрыяй, выйдзе замуж за заможнага замежнага інвэстара і народзіць вывадак эфэктыўных апэратараў, якія будуць канкураваць на радасьць люду паспалітаму. Міністэрства жыльлёва-камунальнай гаспадаркі ўжо даўно йдзе ў гэтым накірунку. Канцэпцыя рэформы ЖКГ прадугледжвае прыватызацыю ЖЭСаў і ўвядзеньне прынцыпу канкурэнцыі паміж апэратарамі.

# Камунал (бізнэс




## Канкурэнцыя

**На сёньняшні дзень на рынку камунальных паслуг Беларусі працуюць некалькі апэратараў. Два зь іх прадастаўляюць паслугі ў стандарце ЖКГ: беларуска-кіпрская «Жылком» і беларуска-расейская ЖЭС (Жыльлёва-Эксплюатацыйная Служба).**




## Ня там, дзе ты жывеш…

**Міністэрства жыльлёва-камунальнай гаспадаркі зьвяртае вашу ўвагу, што дадзеная схема можа не адлюстроўваць сапраўдную сытуацыю. Не забывайце, што на якасьць камунальных паслуг таксама ўплывае прэстыж і месца знаходжаньня вашага жылога памяшканьня. Паведамляем, што на 20 студзеня 2015 году агульная колькасьць абанэнтаў жыльлёва-камунальных паслуг у Беларусі дасягнула 1 млн. 132 тыс. чалавек. За мінулы год гэтая колькасьць павялічылася на 140 працэнтаў. Тэрыторыя пакрыцьця пастаянна пашыраецца. Зараз ЖКП ахапілі 11 працэнтаў грамадзян! Незалежныя экспэрты сьцьвярджаюць нават, што ёмкасьць рынку жыльлёва-камунальных паслуг – 35-40% насельніцтва. Але практычна ўсе аналітыкі згодныя, што плацёжаздольныя беларусы даўно падключаныя. Да таго ж, г.зв. «камунальныя ямы» – натуральная рынкавая зьява. Пранікненьне ў насельніцтва залежыць ад яго здольнасьці прыносіць прыбытак. Як сьведчыць лепшы міжнародны досьвед прыватызацыі водазабеспячэньня, вядомы Мінжылкамгасу яшчэ да пачатку рэформаў, малыя гарады і сельская мясцовасьць не цікавяць прыватных інвэстараў: Выйсьце для неплацёжаздольных жыхароў Канцэпцыя-2015 бачыць у стварэньні пры мясцовых органах улады спэцкамісіяў для працы з хранічнымі даўжнікамі, высяляць і перасяляць. Прэзыдэнтам падпісаны ўказ аб стварэньні сацыяльных тарыфных плянаў з сотай-долі-сэкунднай тарыфікацыяй камунальных паслуг, а таксама пра абвяшчэньне тэндэра на трэцяга апэратара – канкурэнта ЖЭС і «Жылком».**



Ужо пачалося іх акцыянаваньне. Да 2006 году, фактычна палова маюць стаць акцыянэрнымі таварыствамі. 2010 – прыватызацыя вадаправодаў, паводле запаветаў Сусьветнага Банку (гл. ст. кніжкі Building Blocks for a Sustainable Future, The World Bank, October 2002). Тая ж акцыянэрная карма і ў канцэрна «Белэнэрга» – асноўнага інкубатара электрычнасьці РБ. Пройдзе час – і ЖКГ амаль ня будзе адрозьнівацца ад сёньняшняга рынку мабільнай тэлефаніі. Памарым?

# 2015

## - ПЛЯН)




### ЖК-флірт

**Сёлета кампанія Жылком вывела на рынак новы сэрвіс – жыльлёва-камунальны флірт. Пошук новых знаёмых па дамафону з дапамогай камунальных службаў можа ператварыцца ў незабывальную прыгоду! Выдатны сродак ад хандры і самоты, порцыя адрэналіну і сапраўдная рамантыка – усё гэта ў ананімным флірце зь нябачнымі суразмоўцам па дамафону. Суразмоўцы будуць ведаць цябе толькі па мянушцы (ніку), які ты сам (-а) сабе прыдумаеш. А можна?.. Так, напэўна ў базе КОМПЛАТ апэратара «Жылком» ёсьць і твая «палавінка». Уяві, з кім бы ты хацеў (-ла) пазнаёміцца. Пры чарговай аплаце пені за камунальныя паслугі ты проста дадаш у рахунак-квітанцыю свае дадзеныя (рост, вочы, валасы, хобі...), якія напэўна адпавядаюць чыімсьці ўяўленьням пра ідэальнага партнэра. Астатняе – пытаньне тваёй прывабнасьці і ўменьня фліртаваць па дамафону. Сыстэма КОМПЛАТ дапаможа табе падказкамі.**

НОВЫЙ ТАРИФ
ЖЭС. ОПТИМА
+35! +60! +120!
✔ без отопления
✔ выгодные звонки в домофоны других операторов
✔ 30 руб. за минуту проживания в сети ЖЭС
✔ 3 любимых этажа
✔ платный определитель номера этажа в лифте
С Новым Годом!
Всегда выгоднее. Всегда точно.
ЖЭС

### У рэзэрве – людзі бяз грошай

**Аніводзін сэгмэнт айчыннай эканомікі ня можа пахваліцца гэткімі тэмпамі росту, якіх дасягнуў рынак камунальных паслуг. Для прыцягненьня прыватных інвэстыцыяў тарыфы былі даведзеныя да рэнтабэльнага ўзроўню, адключылі злосных неплацельшчыкаў. Павысіўся прэстыж паслуг сярод насельніцтва. Элітна прыняць душ стала любімай забавай сярэдняга класа. Але дзякуючы канкурэнцыі зьявілася магчымасьць казаць пра даступнасьці ЖКП для масавага спажыўца. Дыфэрэнцыяваліся тарыфныя пляны і паслугі: Эксклюзіў (за 139 у.а. за месяц магчымасьць безьлімітнага карыстаньня мусарапровадам і радыёкропкай), Оптыма. Ноч (скідка на карыстаньне санвузлом з 20.00 да 8.00), «Любімы этаж» (дазваляе зьдзяйсьняць выклік ліфта на адзін этаж ла спэцыяльным тарыфе 0,01 у.а. за адзін праезд), Старт (для тых, хто ня любіць мыцца, сьпякоту ў хаце і змываць за сабой, нізкая кватрплата з пасэкунднай тарыфікацыяй). Спачатку ў сталіцы, а потым у абласных цэнтрах распаўсюдзілася мода насіць на шыі душавыя аксэсуары.**

РАЗВЛЕЧЕНИЯ
закажи ЖКУ
НА ОДНУ ИЗ КВАРТИР
1001 Анекдоты от консьержки!
1006 Афоризмы от лифтера!
1009 Тосты от сантехника!
1014 Сонник и гороскоп от дворника!

### ЖК-забавы

**Безумоўна, галоўнае дасягненьне канкурэнцыі – павелічэньне асартымэнту жыльлёва-камунальных паслугаў насельніцтву. Яно стала магчымым толькі са зьяўленьнем другога ЖКГ-апэратара – расейска-беларускай кампаніі «Жыльлёва-эксплюатацыйныя службы».**

### Мабільны Рай

Экстаз мабільнага буму – *«дэманстрацыя перавагаў канкурэнцыі»* (гл. Ольга Микша, «В резерве – люди без денег», *Белорусская Газета*, 12.01.2004). Толькі ўявіце: *«GSM-апэратары навыперадкі асвойвалі новыя рэгіёны, выводзілі на рынак новыя прадукты і зьніжалі кошт паслуг»* (Тамсама). Адным словам, поўны трыюмф рынку над рынкавым сацыялізмам. Аналізы «аналітыкаў» паказалі, што дзякуючы канкурэнцыі ў новым годзе колькасьць сотавых абанэнтаў у Беларусі падвоіцца за кошт *«актыўных, але малазабясьпечаных – у першую чаргу моладзі, а затым за трубкі, купленыя дзецям і пэнсіянэрам»* (Тамсама). Больш таго, *«незалежныя экспэрты лічаць, што зьяўленьне яшчэ аднаго апэратара прывядзе да ўсіленьня канкурэнцыі і як сьлед — да зьніжэньня кошту паслуг і паляпшэньня сэрвісу»* (www.naviny.by, 31.12.2003). Да «экспэртаў» прыслухаліся вяльможы Міністэрства сувязі і акурат перад Новым годам вырашылі абвесьціць тэндэр, зь якога ў хуткім часе вылупіцца трэці канкурэнт МТС і Velcom, таксама дзякуючы прыватнаму замежнаму капіталу. Нават Пярун дырэктарскага корпусу і, па словах апазыцыйных СМІ, кілер замежных інвэстараў А.Р.Лукашэнка аберагае канкурэнцыю ў гэтым сэктары ад інквізытараў з КДБ лепш, чым агуркі ў шклоўскіх парніках ад фітафторы. Апэратары сотавай сувязі – той самы кракадзіл з залатымі яйкамі, якога нельга кастрыраваць, а тым больш аддаваць праваахоўным жывадзёрам. Нават калі афшорныя інвэстары-гарэзы любяць трохі пашаліць з законам. Такім чынам, сэктар мабільных тэлекамунікацыяў – гэта марская сьвінка беларускіх рэформаў, экспэрымэнт лібэралізацыі грамадзкага сэктару РБ на асобна ўзятай галіне. Досьледы працягнуцца.

# Вуліцы прыватных ліхтароў

## Жыльлёва-камунальны баявік

«Паважаныя наймальнікі і ўласьнікі жылых памяшканьняў!
Інфармуем Вас, што ў мэтах забесьпячэньня своечасовых разьлікаў за спажываныя камунальныя паслугі і тэхабслугоўваньне жыльля з 01 сакавіка 2004 году <u>налічэньне пеняў за пратэрміноўку плацяжоў будзе зьдзяйсьняцца ў рамках аўтаматызаванай сыстэмы «Комплат»...</u>»

Вось ужо некалькі месяцаў, як менавіта гэткім шантажом Упраўленьне жыльлёва-камунальнай гаспадаркі Менгарвыканкаму ўпрыгожвае тыльны бок нашых двухколерных жыровак. Інфарматызацыя такіх балючых працэдураў як аплата каналізацыі і высяленьне злосных неплацельшчыкаў пачынае новую эру (ня блытаць з аднайменным напоем) у паляпшэньні дзяржаўнага кантролю над грамадзянамі. Акрамя пені, разумная праграма «Комплат» таксама дазваляе аналізаваць стан аплаты камунальных паслуг па кожным доме і раёне ды зьбіраць кампрамат на камунальна недабранадзейных індывідаў. Пасьля сарціроўкі і ўтылізацыі нерэнтабэльнай публікі, можна пераходзіць да наступнага этапу «забесьпячэньня сваечасовых разьлікаў». Як паказвае досьвед мабільнай тэлефаніі, інтэрнэту і таксафонаў, аўтаматызацыя павінна атрымаць працяг у выглядзе ўвядзеньня магнітных карт папярэдняй аплаты. Гэта азнамянуе канец эпохі мэзазойскіх даўжнікоў і пачатак эры камунальнага кібэр-хакерства...




























У экстазе пагоні злачынец ігнараваў правілы тэхнікі бясьпекі, але было ўжо позна
Гэй, мужык! Ты сюды не хадзі, ты туды хадзі
Ах... Прама ў сэрца...
Дзіўная рэч, усе карткі імянныя, выпісаныя на Віктара Саныча Вантузава
У кішэнях няшчаснага пушэра апэра знайшлі кіпу картак камунальных паслугаў апэратара СП «Жылком»


Вівіен дапамагла сьледзтву навесьці даведкі наконт гэтай асобы
Вантузаў? Гэта ж наш сантэхнік. Яму як супрацоўніку фірмы належыць выдаваць некалькі бясплатных картак.
Ну вось, батарэя працуе. А цяпер эксклюзіўная паслуга ад «Жылком» — мужчынскі стрыптыз!
А ў гэты час Вантузаў аказваў кліентам сантэхнічныя паслугі
Ўа-а-аў!
Хачу-хачу-хачу!!!


Выкліканы ў ГАМ на допыт па павестцы штатны сантэхнік ЖК СП «Жылком» гр. Віктар Саныч Вантузаў не пажадаў дабраахвотна дапамагчы сьледзтву. Відаць, што па-добраму ён не разумеў...
Ды што я, сука, каб зь мянтамі справы мыць?!
Як вы патлумачыце тое, што карткі, якія выдадзеныя вам фірмай, тыражуюцца злодзеямі?
Каб абудзіць у Вантузава грамадзянскую сьвядомасьць прыйшлося зрабіць «ластачку»
А-а-а! Хопіць, больна! Ваша ўзяла! Скралі ў мяне карткі. Нейкі чмыр зь Енісейскай. Карбышаў, кажыся, яго прозьвішча


Выбівай, дзьверы, я прыкрыю!
Перад тым, як браць Карбышава, доблесныя мянты дасталі зброю


Відаць, абанэнт даўно адключаны
Я гэтага Вантузава па сьценцы размажу! Паехалі да яго!
Аднак Карбышаў аказаўся не мацёрым рэцыдывістам, а звычайным пэнсіянэрам-«адключэнцам», які ня здолеў своечасова праплаціць паслугі ЖКГ, і ад холаду ператварыўся ў звычайнага сьнегара.


Вантузаў падазрона ветліва сустрэў супрацоўнікаў МУС
Я рады дапамагчы знайсьці злодзея. Але больш вэрсіяў у мяне няма.


І дзе шукаць зараз гэтага хакера. А можа забіць на ўсё і павесіць «глухара» на Карбышава?
Ну ладна, разьбярэмся. Дарэчы, ці можна калега скарыстаецца вашым клазэтам?


Хвілінку-хвілінку...
Калі сышчык вырашыў падчысьціць ачко, яго зрок прыкавала нейкая дэталь на ёршыку


«Вантузаву ад кампаніі «ЖЭС» за паслугі ў барацьбе з канкурэнтамі»


Спадар сантэхнік, як вы патлумачыце гэтую ўліку?
Прачытаўшы надпіс на ёршыку, опэр усё зразумеў: Вантузаў – агент ЖЭСу ў шэрагах «Жылкому»!


Выкрыты бандзюга рвануўся да акна, каб выскачыць навонак і зьнікнуць у цемры вуліц прыватных ліхтароў
Ах вось як? Атрымай, твар мянцярская!
Ай-ай! Па твары ня біць!


Адзінае, што магло спыніць злачынцу – звычайны ёршык у руках прафэсіянала
Н-на!


А-а-а...


Бзынь!
БУМ...


Толькі не гаварыце маёй маме...


Вы ня маеце права! Я грамадзянін Кіпра. Я патрабую косула!!!
Празь дзьве гадзіны апэра ўзялі дырэктара кампаніі ЖЭС, які прымушаў Вантузава тырыць і падрабляць карткі канкурэнта


«Прэзыдэнт заявіў, што ня можа трымаць у турме курыцу, якая прыносіць залатыя яйкі. Дырэктар кампаніі ЖЭС выпушчаны з турмы»
Ну, па апошняй...
На наступны дзень ва ўбойным аддзеле аўтазаводскага ГАМ царыла звычайная працоўная руціна

# Kill Debill

## ЗАБІЦЬ ДЭБІЛА

Кожны контаркультурна-прадзьвінуты беларус, кшталту нас з вамі, ня можа глядзець апошні фільм Таранціна «Забіць Біла» безь сьлязьлівай мэнструацыі. Маралізм тут ніпрычым. Ніагары крыві, полчышчы інвалідаў-якудзаў, Гімалайскія горы зь іхных адсечаных канечнасьцяў толькі прыкалваюць. Не, мы не пантанутыя эстэты кшталту Жбанкова, каб біцца ў падучай з таго, што ракурс камэры хіровы ці касьцюмы не пасуюць. Не кінакрыткі «Арт-хаўза», каб, заўважыўшы, што кроў на экране вельмі падобная да кетчупу «Чумак Чылі» раўсьці на ўвесь «Октябрь» «ня веру!». Але становіцца крыўдна з таго, што сваім фільмам вялікі рэжысэр паклаў свой талент на алтар увекавечаньня жанру ганконгскіх баевікоў. З гэтага часу хадульна зьбіты сюжэт азіяцкіх «адзінаборстваў», заснаваных на камічным супрацьстаяньні «інь» і «янь», героі-клішэ коп Джэкі і мафіёзі Вонг, разборкі на нунчаках і бамбукавых штакетах увайдуць у аналы сусьветнай культуры. Калі на артэфакт часоў мадэрну робяць пародыю, такі мастацкі твор можна лічыць надчасовым. Гэта постмадэрнізм, сыравіна, здольная стаць маткай для новых творчых абортаў. І крыўдна з таго, што ў фарватэры мастацтва ідуць сушы-дэтэктывы (Ганконг), спагеці-вэстэрны (Італія), бэтманутыя супэрмэны (ЗША), а ня наша родная беларуская чарнуха.



Вялікая культурная спадчына, архіваваная ў выданьнях *Частный Детектив*, *15 суток*, *Криминальная Газета*, і г.д. засталіся абсалютна незапатрабаванымі цэлюлоіднымі іжынэрамі чалавечых душ і прад'юсэрамі «Miramax». Міжтым героі чарнушных опусаў такія ж прымітыўныя, такія ж хцівыя й такія ж крыважэрныя, як і іхныя азіяцкія гамагены. Адзіная розьніца хіба што ў тым, што на берагах Сьвіслачы чалавечую плоць расчляняюць ня ніньдзяўскімі зорачкамі і самурайскімі мячамі, а хлебарэзамі і арматурай. Ды й п'юць нашыя пэрсанажы больш, а гэта ў часы кіслотнай рэйв'-рэвалюцыі – прагрэсіўная фенька.

На сто гадоў эпохі, калі самым важным з мастацтваў зьяўляецца кіно, у нас дасюль няма беларускага Таранціна. Няма каму ўвекавечыць на экране ружовую барыгу Люду, палешука-вычварэнца Тараса, бамжа-людажэра Васю... Пакуль нашы кіношнікі дрочаць на Фасбіндэра і Таркоўскага з фон Трыерам, лепшым прадстаўнікам народнай інтэлігенцыі, кшталту нас з вамі, застаецца толькі марыць. Марыць пра тое, як выглядаў бы фільмец «Забіць Біла», калі б Квэнціну ў 10 гадоў на вочы патрапіўся ня Джон Ву, а сьвежы нумарок *Частного Детектива*, на вокладцы якога 30-ым кеглем роў загаловак: «Вырадак-падлетак з Івацэвічаў арганізаваў публічны дом з адзінай прастытуткай – сваёй сямігадовай сястрой». Што ж, памарым разам, пакуль што ў фармаце коміксу...




...Напярэдадні.

4-ы ФІЛЬМ КВЭНЦІНА ТАРАНЦІНЫ

Праз 5 дзён Яна накіроўвалася ў пакой інтэрнату, дзе жыла студэнтка з Буркіна-Фасо Джэніс Мабутаўна Мгаба




Барыга зь берагоў Лімпапо сустрэла госьцю ня вельмі ветліва.




Базар паступова перайшоў у жаночую разборку.




У разгар бойкі зьявілася асоба, якая прымусіла дуэлянтак прыпыніць разборку.




Мгаба ня грэбавала прадаваць ханку вучням суседняй школы.




Не пасьпела малалетняя тарчыха выйсьці, як барацьба разгарэлася з новай сілай.




Да чарговага прыходу Каці ўсё было скончана.




Пакінуўшы інтэрнат, Яна дастала блакнот, адчыніла, і пачала прыгадваць як яе завуць, і што зь ёй здарылася ў апошнія дні.




Падчас трохдзённай гулянкі на дзень сьвятога Валянціна былыя сабутыльнікі на чале з дэбілам нажраліся да ўсрачкі і прадалі яе чорным дактарам, якія займаліся продажам чалавечых органаў.



Тры дні Яна правалялася пад кропельніцай, не прыходзячы ў сябе.




Тразьвяк прыйшоў на пяты дзень.




Пачуўшы крокі Авіцэнаў у калідоры, Яна своечасова прыкінулася трупам.




Гэта быў дзяжурны мэдбрат Сьцяпан Бухто і гандляр чалавечымі вантробамі Піцерас Данатас. Данатас выразаў гемароідныя шышкі ў каматозных беларусаў, а Бухто дапамагаў яму, маючы свой працэнт за наводку.




Падлічваючы ў мазгах будучыя дывідэнды ад продажу чалавечага тавару, грамадзянін Літвы распусьціў быў язык, калі раптам...



Калі Бухто прыбег на лямант, ён убачыў жудасны антураж. Вось што здарылася зь Янай пасьля памінак Джэніс Мгабы




Цяпер Яна вырашыла адпомсьціць ас татнім дэбілам. Наступнай на чарзе была Монг Ван Чэ – каралева менскіх звалак. Гэта быў сапраўдны вораг...

## Англа-амэрыканскія бурацiны

Нарэшце, праясьнілася сытуацыя з пагрозай ірацкай г.зв. «зброі масавага зьнішчэньня», якая стала падставай для ўводу войскаў аб'яднанай кааліцыі ў Ірак. Аказваецца, гэтай самай зброі наогул не існавала. Аб гэтым паведаміў кіраўнік ААНаўскай місіі. Здаецца, усяму сьвету стала зразумелая беспадстаўнасьць англа-амэрыканскіх абвінавачаньняў да небаракі Хусэйна. Засталіся толькі ўпартыя Тоні і Джорджы, якія да гэтай пары працягваюць сьцьвярджаць адваротнае і ўсімі магчымымі сродкамі апраўдваць сваю вайсковую інтэрвэнцыю.






## Год малпы для Буша-малога

Як вядома, 2003 год – гэта кітайскі год малпы. І адначасова, гэта самы цяжкі год для дзеючага прэзыдэнта ЗША Джорджа Буша-малодшага. У гэтым годзе яму прыйдзецца адстойваць сваё прэзыдэнцкае крэсла. А рэйтынгі тымчасам паказваюць, што шанец на паўторную інаўгурацыю вельмі малы. Дык ці здолее выбарчы штаб Буша паўтарыць посьпех чатырохгадовай даўніны, калі ён абламаў усе патугі дэмакратаў і акупаваў Белы дом?

## Вірус альтэрглябалізму

**Апэрацыйная сыстэма Сусьветнага Эканамічнага Форуму: «Вірус! Іншы сьвет магчымы!»**
**Мужык: «Я думаю, гэты вірус быў запушчаны ў Бамбэі!»**
Штогадовы эканамічны форум у швайцарскім Давосе ў гэты год супаў па даце з антыглябалісцкім форумам у індыйскім Бамбэі. У той час, калі ў Альпах буржуі вырашалі праблему чарговага эканамічнага перадзелу сьвету, у Індыі антыглябалісты намагаліся знайсьці новыя мэтады барацьбы з тымі буржуямі.




## Муха для кандыдата

**Джон Кэры: «Афіцыянт, што гэта вялікая муха робіць у маім супе?»**
**Афіцыянт: «Гэта ўсяго-ткі стары-добры Ральф Нэйдэр, сэр».**
Нечакана для ўсіх у прэзыдэнцкую гонку ў ЗША ўступіў незалежны кандыдат, кіраўнік амэрыканскай Партыі Зялёных Ральф Нэйдэр. Так-так, той самы Нэйдэр, якога дэмакраты лічаць вінаватым у паразе Альбэрта Гора ў 2000 годзе. Памятаеце вялікі скандал зь пералікам галасоў у штаце Флорыда? Тады з-за розьніцы ў некалькі тысячаў галасоў да ўлады прыйшоў Буш. Дык вось, нібыта той самы Нэй... сутнасьці копіяй пра... галасы дэмакратаў. А... аналітыкаў, з-за папу... аніякіх шанцаў.







## Пэдафілы бяз твару

**Судзьдзя: «Мсьё Дзютру ня хоча, каб нехта бачыў ягоную галаву!»**
**Голас з залі: «Каб ніхто яе не адарваў?»**
Вялікі вычварэнцкі скандал скалыхнуў усю зажратую кансэрватыўную Эўропу. У Бэльгіі праходзіць суд над маньякам-пэдафілам Маркам Дзютру, які гвалтаваў і забіваў маленькіх хлопчыкаў і дзяўчынак. Аднак сам абвінавачаны з падачы сваіх адвакатаў сьцьвярджае, што ён быў толькі вінцікам у агульнай транснацыянальнай пэдафільскай машыне, кіравалі якой вядомыя палітычныя дзеячы ўласна Бэльгіі і ўсёй Заходняй Эўропы. Відаць, неўзабаве эўрапейскія ўрады будуць адкупацца ад пацярпелых, як каталіцкая царква ў Амэрыцы адкупалася за «грахі» сваіх блудлівых кюрэ.

## Нелегальных людзей не бывае?..

**Надпіс на газэце: «Нелегальныя імігранты могуць займаць толькі тыя рабочыя месцы, ад якіх адмаўляюцца амэрыканцы».**
**Прапагандыст: «Такім чынам мы можам бясконца трымаць кантынгент у Іраку... А таксама неўзабаве паслаць экспэдыцыю з наступнай місіяй на Марс».**

Акурат у перадвыбарчую кампанію амэрыканскі кангрэс прыняў законапраект, згодна якому нелегальныя імігранты могуць атрымаць толькі тую працу, ад якой адмовіліся карэнныя жыхары. Відаць, такім чынам Буш хоча атрымаць у сваю кішэню галасы латынасаў.




## Ці ёсьць жыцьцё на Марсе?

**Марс. Няма навінаў ад «Бігла-2»!**
**Марсіянін: «Ну што ты нарабіў! Ня будзе больш табе цацак зь Зямлі на Каляды!!!»**




Пакуль амэрыканцы выношваюць пляны усяленскай калянізацыі космасу, пакарэньне найбольш прыдатнай да чалавечай экспансіі плянэты – Марсу – ідзе сваёй чаргой. Заявы амэрыканскага прэзыдэнта Буша наконт будучага асваеньня космасу ніяк не стасуюцца з правалামі НАСА ў асваеньні Марсу. З двух марсаходаў, запушчаных на Чырвоную плянэту, у жывых застаўся толькі адзін. А ад апарату «Biggle-2» да гэтай пары няма ніякіх зьвестак. А другі апрат – «Opportunity» – пасьпяхова прымарсіўся і штодзень дасылае на зямлю фотаздымкі і аналізы марсыянскай глебы. А яны, між іншым паказваюць, што ў незапамятныя часы на гэтай плянэце была вада, а гэта значыць, што тэарытычна там можа існаваць, альбо некалі існавала жыцьцё.

## Эўрапейцы другога гатунку

**Надпіс на фасадзе: «Усе сябры Эўрасаюзу роўныя».**
**Побач шыльда: «Але хтосьці эўрапеесьційшы за іншых».**




Нямецка-франка-брытанскі саміт на вышэйшым узроўні паставіў пад пагрозу саму ідэю існаваньня Эўрапейскага саюзу: нэафітам адмаўляюць у праве на працу. Калі г.зв. дзяржавы-«лідэры» праводзяць закулісныя кансультацыі, дзяржавы «другога гатунку» справядліва абураюцца: што нас у ЭС, за лахоў трымаюць.

## Сьмерць на віражах

**Журналіст: «Ці можаце вы назваць прычыну сьмерці?»**
**Доктар: «Так, мы знайшлі чорную скрыню... Яна з аптэкі!»**

Сьмерць вядомага італьянскага велагоншчыка Марка Пантані працягнула чэргу допінгавых скандалаў. Тысячы неабыякавых італьянцаў прыйшлі аддаць даніну павагі чалавеку, які неаднаразова апранаў жоўтую майку лідэра. Незадоўга да гэтага вугорскі футбаліст адкінуў буцы прама падчас матчу, а яшчэ адзін аматар папінаць мячык склеіў буцы на трэніроўцы. А Пантані ўжо год сядзеў на антыдэпрэсантах і піў запоям з-за дыскваліфікацыі. І ад безнадзёгі ўзяў ды й скончыў жыцьцё самагубствам, таму што лічыў сябе невінаватым.




## Нямецкія мэтамарфозы




**Верхняя шыльда: «Зьнешняя палітыка!»**
**Ніжняя шыльда: «Унутраная палітыка!»**

Занадта актыўная зьнешнепалітычная дзейнасьць нямецкага канцлера Шродэра абурае апазыцыю. У той час, як ён амаль штотыдзень расьпівае шампань з Шыракам, Блэрам і Бушам, унутраныя праблемы, ад якіх нікуды ня дзенесься, невыносным грузам падаюць на ягоныя кволыя плечы.

## Апошнія спакусы Хрыста працягваюцца

**Надпіс на вітрыне: «Хто ж сапраўды забіў Хрыста?»**
**У шэрагу: яўрэй, рымлянін, Карл Маркс, Санта-Клаўс.**
**Сьведка: «Адназначна нумар чатыры».**




Не сьціхаюць жарсьці вакол апошняга фільму акцёра і рэжысэра Мэла Гібсана «Жарсьці Хрыстовы». На думку сусьветнага яўрэйства, фільм Гібсана кідае цень у цёмнай справе сьмерці Хрыста на сусьветнае яўрэйства. Але папа рымскі сьцьвярджае, што Гібсан адлюстраваў рэальную «тру-сторы» выхадца з Назарэту.

Пераднавагодні Кішынёў выглядаў так, нібыта сталіцу «Славянскага базару» горад Віцебск акупавалі гайдукі, за адну ноч павесілі навокал шыльды на румынскай мове ды ўстанавілі «разьвіваюшчыйся капіталізьм». Але мне няма калі было зьвяртаць увагу на ўсю гэтую бесарабскую экзотыку, бо ж я прыбыў у Кішынёў з сур'ёзнай мэтай: мне належыла ўзяць інтэрвію ў фронтмэна славутага гурта Zdob Şi Zdub Рамана Ягупава. У першы ж дзень на кішынёўскім рынку мне шэптам паведамілі, што Раман увесь вольны ад музыцыяваньня час бавіць у напружаным сузіраньні, намагаючыся пазнаць адзінства Сусьвету, а ягоная сяброўка (вельмі мілая жанчына) час ад часу балуецца тэлекінэзам. Шляхам нескладаных афёраў, подкупаў і махінацыяў мне такі ўдалося дабіцца сустрэчы з Раманам. Паскардзіўшыся на тое, што я не прывез з сабой прадукцыю Лідзкага піўзаводу, Раман дабрадушна пагадзіўся задаволіць маю цікаўнасьць і адразу ж сам азадачыў мяне пытаньнем...



# Zdob Шы Zd

**Раман Ягупаў:** Так, у вас у Беларусі смачнае піва, напэўна таму, што вада добрая. А яшчэ ў беларускіх азёрах жывуць такія доўгія рыбіны падобныя да зьмеяў.
**Карэспандэнт:** Вугры, хіба?
**Р.Я.:** Так, так, вугры! Ты ня ведаеш, як яны туды патрапілі, у гэтыя азёры? Мо' яшчэ зь Ледніковага пэрыяду засталіся?..
**К.:** Раман, я баюся, што ня здолею наталіць твой экалягічны інтарэс да беларускай фаўны, бо вугры абсалютна неразгаворлівыя і сьвята зьберагаюць свае запаветныя таямніцы. Ну й Бог зь імі... Спадзяюся, што ты не такі ўжо замкнуты й адкажаш на некалькі пытаньняў, што турбуюць чытачоў *Навінкі magazine*. Шу што, прыступім. Раман, ты даўно цікавісься цыганскай культурай, з чым зьвязаны такі незвычайны інтарэс?
**Р.Я.:** Я люблю фолк. І ня толькі цыганскі. Казкі, балады, песьні. Зь дзяцінства гэтым захапляюся, а потым узяўся за гітару...
**К.:** ...І адправіўся вандраваць «по долинам и по взгорьям». Зь якімі цыганскімі калектывамі супрацоўнічае ZDOB ŞI ZDUB і хто з цыганскіх музыкаў аказаў на вас найбольшы ўплыў?
**Р.Я.:** Зусім нядаўна мы скончылі запісваць новы альбом, які будзе называцца «450 авец». Разам з нам ў працы над альбомам бралі ўдзел цыганскі тараф[1] IAGALO і маэстра Васіле. Гэта вельмі вядомыя і паважаныя людзі. Яны нават у Галівудзе здымаліся разам з Джоні Дэпам. Прыкольны такі фільм атрымаўся. Джоні Дэп грае цыгана, джыгітуе па Елісейскіх палях, а потым пад гукі скрыпкі частуе дзядулю Васіле віскі «Johnny Walker». Карацей, гэткая лэўтарская[2] рамантыка і настальгія па баярскіх задворках старажытнай Румыніі.
**К.:** Дзе ж вы пазнаёміліся з такімі цудоўнымі музыкамі?



# КАК Саша і Сірожа ў апазіцыю хадзілі

Ня шмат якім клоўнам або пэрсанажам коміксаў пашчасьціла стаць суб'ектамі вялікай палітыкі. Нават славуты мультгерой, брэнд амэрыканскага ладу жыцьця Мікі-Маўс не прасунуўся далей за ролю ў прапагандысцкім роліку. У 1944 годзе Дыснэй даручыў Мікі місію дзяржаўнай важнасьці: мачыць шэрага ваўка. Вусы і чуб намаляванага драпежніка нагадвалі аднаго нямецкага канцлера. Што да клоўнаў, то акрамя Чарлі Чапліна і яго «Вялікага Дыктатара» (і то зь вялікай нацяжкай) нават няма каго прыгадаць. Адзіная краіна, дзе палітызацыя ахапіла нават віртуальных істотаў і комікаў – родная Беларусь. У сярэдзіне сьнежня 2003 годзе Саша і Сірожа – героі папулярных коміксаў з *Прессбола* і іхнія тэлеклоны, якіх граюць Сяргей Міхалок і Аляксей Хацкевіч, нечакана сталі ньюсмэйкерамі палітычных мэдыяў.

Камэнтуючы на РТР прыколы прэзыдэнта наконт увядзеньня курсу ідэялёгіі, героі праілюстравалі палітпрацэсы на мікрамадэлі – статку кароў: «Ані прэпадают канфармізм. Ня знаеш, што эта такое? Эта кагда каровы ў нас пасуцца, знаеш, на чом ані дзержацца? На канфармізьме. Адну гоніш, і тагда ўсе туда бягут. А так бы было: адна — вады папіць, другая — сьнега паесьць, і мы бы іх не сабралі. А у ніх есьць ідзеалогія!»

Паралель: РБ – статак, індуктыўным прыёмам лёгікі прыводзіла гледачоў і супрацоўнікаў каманды прэзыдэнта да шакіруючай думкі: калі грамадзяне РБ каровы і цяляты, то бацька, атрымліваецца, – бык-праізвадзіцель з кальцом у носе.

Жарт каштаваў скамарошнаму тандэму працоўных месцаў у праграме «Достань звезду» (БТ). Генпрад'юсэр кампаніі матываваў лакаўт нізкім рэйтынгам глядацкіх сымпатыяў. Нібыта, калі пачынаецца застаўка «На скрыжаваньнях Эўропы», публіка кідае ўсе справы і ліпне да блакітных экранаў. Для саміх Сашы і Сірожы навіна аб звальненьні стала сюрпрызам. Яны калдырна жаліліся і адмазваліся.

Сяргей Міхалок (Сірожа): «Мы и предположить не могли, что наши приколы на РТР смонтируют с картинками выступлений оппозиции, БРСМ и идеологической работой в стране. Больше всего не хотелось, чтобы нас «притягивали» к любой из политических сторон. Мы клоуны, и наша задача — создавать людям хорошее настроение. А в политике мы не разбираемся».

Аляксей Хацкевіч (Саша): «Журналисты полчаса расспрашивали нас о проекте, а в итоге в передачу вошла лишь малая часть наших высказываний, которые касались жизни Беларуси».

Адмазкі не праканалі. «Достань звезду» дасюль не аднавілі. Кажучы любімай комікамі сельскагаспадарчай лексікай на Сашы і Сірожы як на тых каровах пастаўлена таўро «апазыцыянэры».

Цяпер у паяцаў ёсьць два выйсьця – прасмыкацца перад дзяржструктурамі, вымаліваючы амністыю (шанцаў мала). Варыянт два: забіць на ўсё ды ісьці ў апазыцыю. Апошняе сьвеціць С&С афігіцельнымі бонусамі: экзатычны імідж клоўна-апазыцыянэра гарантуе ім раскрутку ў заходніх СМі, іхнія насы з пап'е-машэ з часам стануць такімі ж сымбалямі апазыцыі як Пагоня і Зубр, а на 25 сакавіка маніфэстанты будуць сьпяваць не «Магутны Божа», а «Саша і Сірожа спаць лажацца тожэ». Увогуле, хто ведае: магчыма краіну выратуе ня снайпэр, а два клоўны












# КАК Саша і Сірожа ў апазіцыю хадзілі
























# КАК Саша і Сірожа ў апазіцыю хадзілі
























# Как Саша і Сірожа ў апазіцыю хадзілі
























**КАК Саша і Сірожа ў апазіцыю хадзілі (альтэрнацыйны фінал)**













Беларусь заўжды пакутавала на дэфіцыт помнікаў культуры сусьветнага маштабу: праклятыя войны, якія пракатваліся па краіне, зьнішчылі амаль усе артэфакты мінулага. Але, дзякуючы Аляксандру Карагіну, старшыні «Менскага Саюзу Прадпрымальнікаў», сытуацыя выглядае ня так ужо й фатальна. **«Предпринимательская культура – это часть мировой культуры»**, – абвесьціў ён чытачам *Обозревателя* ў № 2(76) (16.01.04). Што тычыцца бізнэс-культуры, Беларусь - проста вырай для культутролягаў. Сьціплая ніша Беларусі ў рэестры «Помнікі сусьветнай культуры» ЮНЭСКА (дасюль туды ўваходзілі выключна Белавежская Пушча, Праспэкт Скарыны і Мірскі замак) будзе значна пашыранае. Ня цяжка ўявіць культурныя навіны празь некалькі гадоў. Ну, напрыклад, гэта магло б выглядаць наступным чынам...




## Беларускі малінавы пінжак пайшоў з малатка за сто тысячаў эўра!

Учора на аўкцыёне Sothbey's быў выстаўлены малінавы пінжак невядомага куцюр'е —помнік беларускай культуры канца XX стагодзьдзя. Лот выклікаў вялікі інтарэс у калекцыянэрскіх колах. Прысутнічалі эмісары ўсіх сусьветных музэяў, уключаючы Луўр, Эрмітаж, Дрэздэнскую галерэю і інш. Пачатковы кошт лоту склаў 25 000 эўра. У выніку жорсткай барацьбы пінжак набыў агент ананімнага прыватнага калекцыянэра з Блізкага Ўсходу.

**НАВІНКІ** *magazine*

# Культурныя Каштоўнасьці

## Традыцыі вяртаюцца

Вынікі этнаграфічнай экспэдыцыі студэнтаў практыкантаў Пэдагагічнага Унівэрсытэту ў Віцебскай вобласьці значна пашырылі нашы ўяўленьні аб жыцьці беларусаў у 2-3 гады эпохі кіраваньня Лукашэнкі. У Аршанскім раёне ім пашчасьціла знайсьці Міхася Магаданскага, састарэлага аксакала, знаўца шматлікіх бізнэс-абрадаў і рытуалаў 20-га стагодзьдзя. Нажаль, шмат зь іх ужо забытыя суайчыньнікамі. Напрыклад, ён пазнаёміў студэнтаў з культурай «кідалава партнэра» і рытуалу «канкрэтнай распальцоўкі», а таксама прадэманстраваў «базар у натуры». Як стала вядома нашаму выданьню, запісы базару ўжо зацікавілі фольк-рок-гурты «Новы Палац» і «Новая Троіца». Музыкі вядуць упартую спрэчку за права аранжываваць запіс «канкрэтных базараў», каб уключыць іх у свой рэпэртуар.







## Выпадковая знаходка

Унікальны архітэктурны помнік быў знойдзены падчас пракладу газаправоду ў раёне Камароўкі. Капаючы грунт пад падземны паркінг, коўш экскаватара натыкнуўся на каркас архітэктурнага ансамбля камэрцыйных шапікаў. Апэратыўна выкліканы экспэрт з інстытуту Археалёгіі Акадэміі Навук Ігар Алегавіч Трусаў заявіў, што будаўнікам пашасьціла знайсьці сапраўдны камэрцыйны кіёск, які, зыходзячы з вынікаў вуглевадароднага аналізу знойдзеных у ім крошак «Ралтону», можна аднесьці да пачатку эпохі штрыхкодавай керамікі. Знаходкам, па словах вучонага, няма цаны. Член-карэспандэнт АН РБ Юры Канавальчык у эксклюзіўным інтэрвію нашаму выданьню наступным чынам пракамэнтаваў знаходку будаўнікоў. Увогуле я спэцыяліст па млынах, аднак я мяркую, што трэба рэстаўраваць кіёск і перанесьці яго ў Строчыцы, музэй беларускай архітэктуры і побыту пад адкрытым небам. Таксама адзначу, што я супраць ініцыятывы гарвыканкаму вярнуць Камароўцы гістарычны выгляд шляхам рэканструкцыі комплексу камэрцыйных кіёскаў, і такім чынам прывабіць у горад больш турыстаў. Гэта ўсё мода і эрзац».

## Аматарам гістарычнай і культурнай спадчыны

«Ордэн залатога цэпу й пярсьцёнку» праводзіць на наступным тыдні ў Палацы Дзяцей і Моладзі ролевую гульню – гістарычную інсцэніроўку «разборкі». У разборках прымуць удзел камэрцыйна-гістарычныя клюбы з розных куткоў былога СНД – «Брыгада» (Санкт-Пецярбург). «Пацаны зь Юга-Западу» (Менск), «Дынамаўскія Чаўнакі» (Менск), «Мянялы У.Е.» (Гомель). Пасьля разборкі адбудзецца фэстываль шансону эпохі Мішы Круга.







## Беларускія кінематаграфісты атрымалі прыз у Галівудзе

Стваральнікі беларускага рэклямнага роліка «Будзем браць слуцкі мясакамбінат» (2003 г.) стаў лаўрэатам у намінацыі «За ўнёсак у сусьветнае кінамастацтва». Кінаакадэмікі палічылі, што беларусы больш дастойныя «Оскара», чым іх канкурэнты па намінацыі –крыэйтары фільмаў «Андалуская сабака» і «9 1\2». «Залатога Оскара» беларусам сьвяточна ўручыў Стывэн Спілбэрг. У інтэрвію *Навінкі-magazine* славуты рэжысэр прызнаўся, што вобраз трэцяга ваўка зьлева ў кліпе, які кажа «А як жа ахова!» зьяўляецца лепшай роляй другога пляну ў сусьветнай гісторыі кіно.




# ДыялЁгі пра

# Анталёгія

*Рубрыку вядуць*
*што сустрэліся на чыгуначным*

**Дыплямаваны Баран (ДБ),** скончыў з адзнакай факультэт філялёгіі БДУ, вучыцца ў аспірантуры, падпрацоўвае ў школе на паўстаўкі выкладаньнем беларускай мовы і літаратуры, зацяты бібліяфіл. Характар стойкі, нардычны. Не жанаты. З ГП пазнаёміўся падчас рэйду па кніжным рынку, разгаварыліся, працягвалі дыспут у бліжэйшым піўным бары.



**«Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня»** // Менск, 2004

**Ганарысты Парсюк:** Ну братан, і ты на дачу!
**Дыплямаваны Баран:** Так, трэба ж сьнег пачысьціць, бачыце, як навалiла!
**ГП:** Што новага ў літаратурным ціпа сьвеце?
**ДБ:** Вось *Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня* проста сьвяжайшы мазгавы сок нашых найлепшых глуздоў! Акудовіч, Бабкоў, Мацкевіч, сам Анціпенка піша, што гэта вялікае дасягненьне айчыннага мысьленьня, гераічнага дзеяньня, якое было беларусам забароненае пры камуністах ды й зараз не вітаецца сучаснымі ўладамі, а галоўнае – гэта вынік таго, што ў галовах некаторых беларускіх інтэлектуалаў нарэшце памёр марксізм...
**ГП:** Доўга ж ён паміраў!.. Ды ўвогуле на папяровыя кніжкі сёньня толькі такія разумныя бараны й вядуцца! А што ж іншыя часопісы? Няўжо няма ніводнага на матчынай фене?
**Д.Б.:** На імя *Ідыёта самага настаяшчага* сярод часопісаў могуць прэтэндаваць многія выданьні. Вось, напрыклад, *Дзеяслоў* нумар сёмы, дзе між іншымі аўтарамі можна знайсьці і Яна Паўла II і Ганну Кісьліцыну і Ніла Гілевіча – карацей усе яны пабывалі на старонках газэты *Навінкі*. А Дзьмітрыя Серабракова у *Дзеяслове* увогуле амаладзілі, напісаўшы год нараджэньня 1996.

Дз



Часопіс *Дзеяслоў* **№7(2003)** // Менск, 2004

**Г.П.:** Кажуць, што гэта ён піша літаратурную паласу ў *Навінках*. Як гаворыцца «малады, ды спрытны».
**Д.Б.:** Дык няўжо нічога больш цікавага не знайшлося, чым вершы Папы Рымскага? Не ўсе гэтыя «часопісы ў сабе» сапраўды нагадваюць пра першапачатковае значэньне слова «ідыёт», што значыць «нехта асобны».
**Г.П.:** Такім аўтарам у *Дзеяслове* можа па поўнаму праву лічыцца вядомы комік без усьмешкі Юрась Барысевіч. Такі ўжо «асобны» князь Мышкін проста адпачывае. Юра Барысевіч і на гэты раз разважае пра рэчы, пра якія ня мае ані зялёнага паняцьця: пра мастацтва і пра сэкс. Ён піша: «А колькі б жанаты мужчына не гуляў, ён заўсёды вяртаецца да сваёй жонкі»
**Д.Б.:** А па-ўкраінску «да жынкі»! Гэта Барысевіч піша пра нашае нацыянальнае сьвята Дажынкі. Але вось, напрыклад Папа Рымскі таксама нібыта нежанаты мужык а любіць паразважаць пра сужэнскія стасункі...
**Г.П.:** А колькі б мог парасказаць пра пра касьцёльных пэдафілаў і педзікаў
**Д.Б.:** А нават паэму напісаць. Я зьдзіўляюся, як гэта ў нас аднолькавая колькасьць дэбілаў і па гэты і па іншы бок ідэялягічных барыкадаў. Што апазыцыянэры, што тэлекамэнтатары на БТ – усе неяк аднолькава ідыятычныя. Ці яны «Чырвоную стралу» па НТВ не глядзяць?
**Г.П.:** Вось што я адарваў! Гэта кампутарны дыск паціпу.

Ьь



# лабухаў

*спэцыялісты ДБ і ГП, вакзале каля прыгарадных касаў*




**Ганарысты Парсюк (ГП),** скончыў ПТВ трактара-будаўнікоў, працоўную кар'еру пачынаў з гандлю бацькоўскімі кнігамі ў электрычках, цяпер – дробны спэкулянт на кніжным рынку. Характар шырокі, арыентальны. Разьведзены, плоціць алімэнты на двух парасят. Ня памятае, як пазнаёміўся з ДБ (мабыць, на піўняку пасьля працы?)




Поўны збор нумароў часопісу *Ідыёт* з 83 па 2003 год. У 1995 годзе *Ідыёт* быў намінаваны на прэмію «Букера» – хто з тутэйшых літаратараў можа пахваліцца хаця б Нобэлем, га?
**ДБ:** А як жа ж яго паглядзець?
**ГП:** Няма праблемаў! Я ж маю ноўтбук!
**ДБ:** Глядзіце – вось поўны збор графіці з прыбіральні віцебскага барда Ігара Высоцкага, вось... Шырлі, зноў Шырлі што яна тут робіць... ага... опусы, опусы, бабруйскі мастак Ціхан Абрамовіч, мясцовы мысьляр Уладзімір Мартаў на ідыятызме не саступае аўтарам з *Анталёгіі*.
**ДБ:** Так, я ведаю, што *Ідыёт* – выдатнае спалучэньне правінцыялізму і універсалізму. А што гэта вы на дачу і з ноўтбукам, няўжо парсючыныя сайты глядзець?
**ГП:** Ну як жа, а можа я на новы сайт *Навінак* хачу ў цішы і паўгарэлцы паглядзець?
**ДБ:** Але ж і ты, я гляджу, ня толькі філязофіі маеш, што гэта за парнуха там пад пляшкай?
**ГП:** *Лабух* Някляева? Ведаю, ведаю, выварны паклёп на нашу рэчаіснасьць, сыстэма дзяржстраху апісваецца як вялізны ланцуг надзетых на вялікі чэлес, на самым канцы ланцуга – трахнуты лабух, а на самым пачатку – сам прэзыдэнт!



**Уладзімір Някляеў «Лабух»** // «Логвінаў», Менск, 2004

**ДБ:** Не, насамрэч гэта дужа філязофскі раман, а гіпэрсэксуальнасьць народнага паэта гэта ад ягонай вечнай падлеткавасьці, ды й зараз бяз сэксу сапраўды нельга раманы сачыняць – бо нават вясковыя настаўніцы ў электрычках чытаць ня будуць.
**ГП:** Ага! Вось што я нядаўна скачаў з Інтэрнэту! Нехта Гуткоўскі ў самым Нью-Ёрку выдаў кніжку пад назвай *Ой ты зорка мая ясная*, там сэксу няма, затое ёсьць блакітная дружба паміж настаўнікам і патлатым бардам. Абодва пятухі сьвядомыя беларусы – ходзяць па Камароўцы і сьпяваюць песьню, радок якой вынесены ў загаловак кнігі. Але ня гэта галоўнае – нягледзячы на няўпэўненасьць у палітычнай і сэксуальнай арыентацыі аўтара...
**ДБ:** Для сайту «Хартыя-97» гэта нядзіўна..
**ГП:** Так, невядома хто ён – ці камуняка, ці нацыяналюга, у віртуальнай кніжцы ёсьць апісаньне славутай «Навінкі большэвік парці», калі Мітрыч бэсьціў бел-чырвона-белы сьцяг...
**ДБ:** А чаму тут напісана пра габрэйскія пэйсы, гэта што, Мітрыча за бакенбарды палічылі антысэмітам? Цырк на дроце!
**ГП:** Так, у каго арыентацыя нявызначаная, той і атрымае з усіх бакоў, і злева і справа.
**ДБ:** Дык за што, на гэты раз кульнем чарку?
**ГП:** А вось пад Жыбуля і вып'ем!
**ДБ:** А што, зноў аналіз кала?
**ГП:** Не, калу няма, за гэта і выпіць можна!
**ДБ:** Ну, давай! ●



**Андрэй Хадановіч «Лісты з-пад коўдры»** // «Логвінаў», Менск, 2004

Штосьці я ніяк не прарублю гэтага бармэна: ці ён піва разбадзяжвае, ці гарэлку крэпіць...

# Чырвоная кніга беларускіх піўнух-2

*«Мы ў адказе за тое, дзе нас напаілі.»*

*Антуан да Цэнт-Экзюпэры*

Мы працягваем праект пад назвай «Чырвоная кніга беларускіх піўнух». У кожным нумары мы будзем распавядаць вам пра пазасталыя астраўкі вольнага піцьця і ацэньваць іх па шасьцібальнай сыстэме паводле наступных крытэраў:

**1. Абстаноўка**
**2. Якасьць піва**
**3. Якасьць закусак**
**4. Кантынгент наведнікаў**
**5. Пэрсанал**
**6. Музычнае суправаджэньне.**

Дзеля зручнасьці кожную пазыцыю крытэраў будзем вызначаць паводле вельмі простай схемы:

– **ГУТ**

– **АДСТОЙ**

А для разугрэву пачнем нашу алькагольна-этнаграфічную экспэдыцыю са стольнага граду Менску.

Працэс зьнішчэньня апошніх рудымэнтаў савецкай эпохі ў галіне арганізацыі адпачынку працоўных набывае катастрафічны характар

## Міні-кафэ «Сартана»

(бяз адрасу, раён ст.М «Трактарны завод»)

Чарговае наша падарожжа ў краіну соладу ды хмелю і пачнем з наведваньня міні-кафэ «Сартана», што разьмясьцілася на плошчы ля цэнтральнай прахадной «Трактарнага заводу». Невядома, чым кіраваўся гаспадар кавярні, калі даваў назву сваёй установе: ці то прыгадаў назву роднага кішлаку ля padножжа Арарату, ці можа ўвекавечыў імя каханай дзяўчыны, скрадзенай абрэкамі і памершай у разлуцы – гэтая таямніца пакрытая тлустым слоем піўной пены. Відавочна адно: у міні-кафэ п'юць усё, акрамя кавы. Але так як нас цікавіць зараз толькі піва, мы можам сьцьвярджаць з поўнай адказнасьцю: яно даволі добрай якасьці, хоць з-за шкодных выкідаў «Трактарнага заводу» і аддае крыху мэталічным ды аміячным прысмакам. Можна лічыць гэта спэцыфічнай маркай «Сартаны», бо публіка ў кафэ зьбіраецца большай часткай заводзкая, а яна звыклая яшчэ й не да такіх кактэйляў Мендзялеева. Пэўна, з-за часовага характару забудовы (павільён сэзоннага тыпу, аддзеланы ўнутры плястыкавымі рэйкамі) кавярня стварае пачуцьцё нейкай няўтульнасьці. Праўда, калі вы экстрэмал і любіце прыроду, то можаце пакінуць павільён і прымаць піва на вуліцы за маляўнічымі стойкамі, пакрытымі дэкаратыўным слоем сьнегу і лёду.

Заўсёднікі пераканалі мяне, што гэта нават карысна для здароўя: пры тэмпэратуры на вуліцы –8°C, тэмпэратура напою ў куфлі +8°C будзе прыемна сугравацЬ вашыя гланды.

Што тычыцца закускі, то ўлетку прапануюцца шашлыкі, аб чым сьведчыць іржавеючы ў куце мангал. Цяпер наведнікі маюць магчымасьць заказваць комплексны абед, але з чаго ён складаецца, я гэтак і ня змог высьветліць нават у мясцовых старажылаў.

Дадамо, што пэрсанал прадстаўлены мілавіднай і руплівай бармэнкай (кафэшніцай?), да таго ж абсалютна цьвярозай (эх, маладосьць, маладосьць...)

У якасьці музычнага суправаджэньня ў кавярні заўсёды грае радыё, ну, і Бог зь ім, хай сабе грае.

**А МЫ ПАСТАВІМ «САРТАНЕ» 3 БАЛЫ:**



## Піўбар «УП Цімур»

(вул. Каржа, 9)

Не, не павыveліся яшчэ ў нашай старонцы месцы, дзе можа выпіць і закусіць сапраўдны патрыёт. Тым, хто жадае ў гэтам пераканацца, раім наведаць піўбар «УП Цімур».

Напаўпадвальнае памяшканьне бару разьмешчанае на некалькі румбаў ніжэй за ўзровень мора. Маленечкае акенца пад самай стольлю, шырокія лавы і капітальныя сталы ўздоўж сьценаў, ды ўся астатняя абстаноўка выклікаюць у памяці настальгічнае слова «Трактиръ». Тут вам, вядома, не падыйдзе палавы і не паднясе расьцягайчыкаў з асятрынай па 2 капейкі за тузін ды не прапануе блінцоў з чырвонай ікоркай. Затое ў продажы маюцца даволі апэтытныя пырскаючыя мясным сокам чабурэкі. Замовіўшы бакальчык беларускага піўка за 777 рублёў (на шчасьце!!!) вы зможаце атрымаць асалоду ад сьцяпеннай размовы раённых мужыкоў, зрэдку перарыванай з-за стойкі ветлівым голасам тракціршчыцы: «Ё... вашу маць! Сколька раз прасіла ў завядзеніі не мацюкацца!» Вуха эстэта і цаніцеля славеснасьці будзе ласкаць "саўрыменны беларускі язык", які зьяўляецца асноўным сродкам зносінаў пэрсаналу і наведнікаў. Калі ж да таго вы лічыце сябе яшчэ і рафінаваным інтэлектуалам ды эрудытам, то можаце сумясьціць паглынаньне піва з праглядам пазнавальных тэлепраграмаў каналу НТВ (тэлевізар вісіць пад стольлю). З-за адсутнасьці музычнага суправаджэньня мы будзем разглядаць НТВ як ягоны паўнавартасны эрзац-замяшчальнік.
Карацей кажучы, піўбар «УП Цімур» здольны задаволіць самы патрабавальны густ, зьяўляецца эталёнам беларускай піўнухі і цягне на ўсе 100. Але з-за нястачы такой адзнакі ў нашай шкале балаў мы вымушаныя выставіць гэтаму піўбару на 94 менш – **МАКСЫМАЛЬНЫЯ 6 БАЛАЎ!**









## Глінтвэйная «Падмурак»
(вул.К.Лібкнехта, 92)

Калі пасьля «Сартаны» ды «УП Цімур» у вас яшчэ засталіся сілы, каб перапаўзьці вуліцу, вы можаце наведацца ў глінтвэйную «Падмурак», што насупраць. Так, безумоўна, тут давіць на нэрвы падвясная столь і выклікаюць прыступы клаўстрафобіі малыя памеры памяшканьня, ня здольнага ўмясьціць усіх жадаючых. Затое які пах глінтвэйну шыбае ў нос, толькі пераступаеш парог! Заціськіце пальцамі нос і паспрабуйце засяродзіцца толькі на піве! Выбар любімага напою тут даволі значны: ад разьліўной «Аліварыі» да імпартных бутэлечных «Оболоні» ды «Рогані». З закускамі таксама ўсё ў парадку: застануцца задаволенымі нават тыя, хто любіць пагарачэй. За стойкай бара вам будуць пасьміхацца два (ці можа гэта ўжо ў ваччу дваіцца?) бармэны ў гальштуках (культура абслугоўваньня працоўных! Дайце «Кнігу скаргаў ды прапановаў», запішу вам падзяку!) Выпіўшы ды закусіўшы, аглядзіцеся навокал і зьвярніце ўвагу на той факт, што сваёй дэмакратычнасьцю «Падмурак» застаецца верным нашчадкам старых традыцыяў савецкіх «Галубых Дунаяў». У глінтвэйнай можна ўбачыць за адной стойкай і мясцовага бомжыка, і доктара навук, і простага абывацеля, што здолеў вырвацца на волю з-пад прыгнёту хатняга быту. Можаце колькі заўгодна тарашчыцца ў тэлевізар (што за раён: ужо другі раз у піўнусе замест бумбокса – тэлеяшчык! Тэндэнцыя, аднака...), але вам наўрад-ці што ўжо ўдасца разгледзець пасьля сёньняшняй экспэдыцыі. Таму заплятаючымся кролем шпарчэй паўзіце праз усю Розачку дахаты, але не забудземся пра сваю місію ды **ВЫСТАВІМ ГЛІНТВЭЙНАЙ 5 БАЛАЎ:**






**Граф Чапскі,**
СПЭЦКАР ПА БАРАХ

# Як трЭба разумЕць...

**...Уручэньне «Оскара» (бяз прэміі «Грэмі») дакумэнтальнаму фільму пра наступствы чарнобыльскай аварыі для Беларусі.**

Вялікім дасягненьнем беларускага кінэматографу можна лічыць атрыманьне фільмам «Чарнобыльскае сэрца» заветнага залатога балвана ў намінацыі лепшы дакумэнтальны фільм. Няхай і зьняты ён амэрыканскім рэжысэрам, але ж распавядае пра жудасныя наступствы катастрофы, высокім узроўні захворваньняў ракам, прыроджаных дэфэктах, хвароб сэрца ў дзяцей, а таксама мутацыях у жывёл. Кінакрыткі адразу затрындзелі пра павышэньне інтарэсу Захаду да чарнобыльскіх праблемаў. Але на самой справе сакрэт у іншым. Проста лента ізабілуе на відовішчныя сцэны, а кадры жывёл-мутантаў і хворых дзетак настолькі ўразілі кінаакадэмікаў, што тыя бяз роздуму аддалі перавагу гэтаму беларускаму экшн-фэнтэзі.




**...Экспанацыю рэпрадукцыяў выбітных твораў Трацьцякоўскай галерэі ў вагонах Менскага мэтрапалітэну.**

Кіраўніцтва менскага метрапалітэну вырашыла дзіўным спосабам прывучыць жыхароў сталіцы да сусьветнага мастацтва. Ужо з пачатку сакавіка пасажыры мэтро могуць атрымаць асалоду ад прагляду шэдэўраў выяўленчага мастацтва прама ў цягніках. У вагонах на маскоўскай лініі разьмешчаны рэпрадукцыі карцінаў з расейскай Дзяржаўнай Трацякоўскай галерэі, якія выведзеныя на шырокафарматныя палотны. Гэта творы Левітана, Рэрыха, Саўрасава, Шышкіна, Васільева і іншых расейскіх жывапісцаў. Здавалася б, глядзі ды кайфуй!




Але ж ёсьць у гэтай акцыі і адваротны бок. Ужо паступіла некалькі скаргаў ад даверлівых аматараў жывапісу, якія ў момант зачараваньня ад прагляду шэдэўраў былі абрабаваныя кішэньнікамі. Спрытныя майстры ўмудраюцца выцягнуць лапатнік у нерадзівага эстэта-інтэлігента. А сярод пасажыраў ужо ходзяць чуткі пра небясьпеку такога роду культурнай самаадукацыі. Так што гэтая акцыя рызыкуе стаць самым вялікім канфузам у гісторыі менскага метрапалітэну.

**...Зьяўленьне ў продажы «Маладзецкіх», але курыных яек з дадаткам сэлену.**

Новы прадукт выкінула на айчынны рынак птушкафабрыка «Салігорская», што знаходзіцца ў багатай на мінэральныя рэчывы вёсцы Краснадворцы. Нявядома, які добры моладзец стаў ахвярай салігорскіх «мясьнікоў», Ільля Мурамец ці Алёша Паповіч. А можа і ўсе трыццаць тры багатыры разам зь дзядзькам Чарнаморам паклалі свой мужчынскі гонар на маркетынгавы алтар беларускага гандлю. Як сьцьвярджае рэклямны праспэкт, цуда-яйкі – крыніца здароўя, мужчынскай сілы і даўгалецьця – садзейнічаюць папярэджаньню сардэчных, ракавых і іншых захворваньняў. Праўда, замест звыклага «Рэкамэндавана беларускай асацыяцыяй урынолягаў» стаіць штамп «Одобрено ветнадзором». Аднак нешта не назіраецца асаблівага ажыятажу ў яйка-курыных аддзелах прадуктовых крамаў. А пры ўзгадваньні адной толькі назвы ў мужчынскай паловы насельніцтва пачынаецца жуткае смактаньне ў раёне прадстальнай залозы. Відаць, не перавяліся яшчэ моладцы ў Беларусі...




## ■ РЭКЛЯМА НА КАНАЛЕ

# Беларусь

Адной з галоўных праблемаў сучаснай Беларусі зьяўляецца алькагалізм. П'юць усе, пачынаючы ад сьлесара і сканчаючы школьнікам. Хто ад цяжкага жыцьця, хто наадварот, ад вельмі лёгкага. Пра што яскрава й сьведчыць статыстыка. Гэтак, за мінулы год кожны жыхар Беларусі, уключаючы немаўлятаў, патраціў на алькаголь і піва па 152 тысячы рублёў і выпіў амаль па 52 літры вогненай вадкасьці. Гэта, канешне, не рэкорд: напрыклад, у 1999 годзе мы з вамі навярнулі па 59 літраў. Страшнае аднак іншае. Чатыры гады таму асартымэнт беларускіх булдосаў быў наступны: паўлітры каньяку, 27 бутэлек вадзяры і 31 нульсемка тых самых вінаў і вінных напояў, што ў народзе завецца чарнілам. А ў мінулым жа годзе алька-хітпарад выглядаў наступным чынам: каньяку толькі 150 грамаў на рыла, водкі па 16 пузыроў, затое з бырлам пастараліся: ажно 34 нульсемкі на кожнага грамадзяніна РБ! У пераліку на абсалютны алькаголь гэта складае 8,2 літры чыстагану на душу насельніцтва. Дарэчы, па рэкамэндацыі Сусьветнай арганізацыі аховы здароўя узровень абсалютнага сьпірытусу не павінен перавышаць 2 літры, у адваротным выпадку нацыя лічыцца нездаровай. Так што, рабіце адпаведныя высновы і – у віна-гарэлачны!









# – ШЧОДРАЯ ДУША!



















## *Літаратура вачыма дзіцяці*

Даўно мінулі тыя часы, калі дзяржава належным чынам ставілася да будучыні наступных пакаленьняў. Сышлі ў нябыт піянэрская і акцябрацкая сыстэмы выхаваньня дзяцей, а разам зь імі абавязковая падпіска на *Зорьку* і *Пионерскую правду*. Дзяцей цяпер не хвалююць праблемы сваіх аднагодкаў у брацкім Зымбабвэ і дружба між народамі. Гары Потэр і Дэвід Бэкхэм – вось куміры і героі нашага часу. Але ня ўсё так дрэнна. Ёсьць і пазытыўныя зрухі. Пастаянны Камітэт Саюзнай дзяржавы і выдавецтва «Калабок і два жырафы» рэалізуюць праект «Новыя імёны ў дзіцячай літаратуры». Першым блінам у гэтым праекце стала кніга для юных жыхароў саюзу пад інтрыгоўнай назвай *Коза и самолёт*. Мэта праекту – прадставіць новую дзіцячую літаратуру Беларусі і Расеі. А ў плянах выдавецтва выпуск двух калектыўных зборнікаў апавяданьняў *Приключения мармеладки* і *Шкатулка из колодца*. Няма сумневу, што кнігі з такімі дзіўнымі назвамі будуць карыстацца сапраўднай папулярнасьцю ў маленькіх чытачоў. Мы ж у сваю чаргу запыталіся ў вучняў 3-4 клясаў, як яны ўяўляюць сабе гэтыя кніжкі і прапанавалі праілюстраваць іх. Вынікі перад вамі.

## У Ротэрдам праз Попэнгаген...

**Нарэшце і ў Беларусі зьявілася магчымасьць абзавесьціся ўласным музычным гуртом, які здолеў бы прабіцца ў сусьветны шоў-бізнэс. І адбудзецца гэта не на богам забытым «Эўрабачаньні», на якое забілі болт усе паважаючыя сябе музыкі. 27 красавіка ў Ротэрдаме адбудзецца штогадовае шоў «Fox Kids Planet Live», арганізатарам якога зьяўляецца сусьветны дзіцячы тэлеканал «Fox Kids». З году ў год на гэтую імпрэзу прыяжджаюць самыя папулярныя монстры сусьветнай поп-культуры. Беларусь на гэтым сьвяце песьні і пляскі будзе прадстаўляць гурт КРАСКИ. Адказнасьць вялікая, калі ўлічыць што разам зь імі на сцэну выйдуць такія зоркі як ATOMIC KITTEN, LIBERTY X, BLUE, THE CHEEKY GIRLS, Billy Crawford, Gareth Gates і многія іншыя. Але ў нашых дзевак ёсьць адзін істотны козыр, які, спадзяемся, дазволіць ім стаць ляўрэатамі. Гэта афігенна папулярная сёньня тэма сэксуальных вычвараньняў. Але ў адрозьненьні ад олд-скулу, банальнага і затраханага «татушкамі» лесбійскага каханьня, КРАСКИ прапануюць заходнім дзеткам сьвежачок – навароченая інцэст. Хто ня ведае твору Аксаны Кавалеўскай (вакал) пад назвай «Старший брат», у якой распавядаецца пра дзяўчо, закаханае ў адзінакроўнага братана. Айчыннаму слухачу гэты супэрмэгахіт ужо абрыдзеў да немагчымасьці. А вось на ангельскай мове, ды яшчэ нязвыкламу да такога хард-кору простаму галяндцу або швэду яна прыйдзецца да спадобы. Так што чакаем КРАСКИ да хаты зь перамогай!**

Но ты уже взрослый..

Лёгкі стрыптыз — для айчынных слухачоў

Жорсткае хардкор-шоў — для заходнікаў

О, брат! Да ты уже взрослый!

